
Ягіння ТАРАНТА→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Магдалена ЛОТЫШ→4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3344) Год LXV | Беласток, 14 чэрвеня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


*Як лугавіну каса ні жане,*
*Хоча адскочыць атавіца.*
*Ціхну, старэю —*
*І да мяне*
*Маміны словы вяртаюцца.*
*(Рыгор Барадулін)*

## Хатнія запісы

# Гарышча

Маёвай раніцай забіраюся на гарышча бацькоўскай хаты. Каторы ўжо месяц тлее ў галаве неадчэпная думка: навесці парадак на некранутай дзесяцігоддзямі звалцы рэчаў — калісьці жывых і неабходных, цяпер напалову мёртвых, лішніх, вымытых з якое-колечы вартасці. Няўжо лішніх і бязвартасных? — Маё першабытнае „я" стаўляе пад сумнеў сэнс задуманай дзеі. Торгае за плячо, за каўнер, кідае ў спіну: А ўпарадкаваць прошласць, ці магчыма?

Гарышча роднай хаты — месца па-за мяжой лінеарнага часу. Падымаешся па драбіне-лесвіцы ўверх, прасоўваеш галаву скрозь магічны квадрат і столь, нямая стража сённяшняга дня, пераўвасабляецца ў падлогу мінулых гадоў. Падлога паскрыпвае, угінаецца, як першы снежанскі лёд на сажалцы, а ты ідзеш упэўнены ў яе моц і надзейнасць.

Маленькае акенца ў шчыце запавольвае свавольныя памкненні маёвых промняў і гарышча пасапвае ў спакойным, матавым паўсне. Электрычная гітара — успамін апошніх сямідзясятых дваццатага стагоддзя — спачывае побач з куды за сябе старэйшымі, просценькімі канькамі. Крыху далей, прайшоўшы ўсе сцежкі, спыніліся патрэсканыя маміны боты з халявамі. „Афіцэркі", рэлікт ледзь адгрымеўшай вайны, брэнд моладзевай моды яе пакалення. Апусціўшы круглыя галоўкі застылі ў дрымоце калаўроткі — мамін і бабулін — у мінулым аблігатны абсталюнак кожнай гаспадыні.

... Гітара сніць маю дурную маладосць, канькі — шчаслівае дзяцінства...

А што сніцца калаўроткам? Неўзаранае поле, не засеяны лён? Раз і назаўжды абарваная пража?

Па-дзіцячы капрызлівы май паспеў нагуляцца сонцам і стукаціць аб дах шпаркім дажджом.

... Маёвым даждж ом маміны словы вяртаюцца. Вытыркаюцца з-за каптура яе палінялай курткі. Высоўваюцца са шлюбнага сундука. Злятаюць з вышыванай яе рукамі макаткі. Лаўлю іх, перакладаю з мовы зялёнай вясны на мову срэбнай восені. Гэндэ — там. Одэ — тут. Оно — як клапатлівая перасцярога. *Оно нэ згубіся сынок у тым вэлікум світы*. І яшчэ слова — вычуняў. Турботны шэпт з уздыхам палёгкі. Вычуняў, а я так баялася....

На гарышчы бацькоўскай хаты бачыш, як сыходзяць старыя словы. Згасаюць, саступаюць месца новым, маладым. „Лёгкія калёсікі, звычайна крытыя, для катання дзяцей" — па „Тлумачальным слоўніку беларускай мовы„ — каляска — больш цяпер вядомыя як вазок, а ў гэтых вазках новыя імёны, шыкоўныя і вытанчаныя, паголеныя да ззяння брытвай еўрапейскасці, каляседь на змену старым імёнам, пазначаным кляймом нашай славянскай сярмяжнасці.






Маю дзіцячую каляску бабуля прывезла з Варшавы, як падарунак ад яе знаёмых з нагоды майго прыходу на свет. І каляска, ці не ўлічваючы яе польскае паходжанне, атрымала ў нашай хаце новае імя — вузэк. Затым — перайшоўшы мімавольна на падляшскі акцэнт — вузок, з націскам на літару «у».

... Вузок у цёмным завулку гарышча. Я вырас, ён застаўся такім, як і быў, адно, што цырата жытняга колеру сям-там патрэскала счарнелымі маршчынамі, пасівела. Загружаны маімі школьнымі падручнікамі і сшыткамі, пераправіў іх з дваццатага ў дваццаць першае стагоддзе і будзе цягнуць свой груз далей, доўга, як доўга выстаіць дом...

Дождж гусцее, нябесны музыка выстуквае рытм на бляшанай талерцы даху і рука сама сабой цягнецца да запыленай, загорнутай у павуцінне гітары.

— Няўжо ж не станцуюць пальцы на струнах? Няўжо забылі? — З-пад кучы школьных падручнікаў правакуе вазок.

— Пальцы, канешне, не тыя, але ты паспрабуй. А раптам, — падбадзёрваюць канькі-старэчы.

Струны ляжаць на худым жываце грыфу — вялыя, быццам сцябліны скошаных кітайскіх міскантаў. Кончыкам пальцаў хочацца дакрануцца да іх, пашчыпаць, пачуць, як цёплым, гарманічным акордам адгукваецца халодная сталь.

Якось зайграю! — зрываю сябе з нябачнай прывязі і ў той жа момант рука спатыкаецца аб слова „якось", ніякавее, хаваецца ў зацінуты кулак. І ўсміхаюся яму, нашаму неўміручаму „якось", што нясе ў сабе і пакорлівае чаканне непазбежнай злыбяды, і спадзяванне на цуд.

Настройваю слых на хвалю дзяцінства, праз шумы і трэскі ў эфіры прарываецца хор абымшэлых галасоў. Покуль жывы ў свеце людзі, так ці гэтак — неяк будзе, — кажа першы жаночы голас. Бо ніколі яшчэ не было, каб ніяк не было. Што ўсім, тое і нам, — дакладае другі. Усё перамелецца і якось будэ, — светлы прамяністы мільгае ў трэцім голасе. Дал Бог день, даст и пищу, — дзядкі, запісаныя ў дзіцячай памяці сівымі фарбамі, падцягваюцца з памоўкай, прыхоплена у дарозе з бежанства пасля Першай сусветнай. А мо сама яна, з пачаткам Другой, у верасні трыццаць дзявятага сюды прыплялася? Не ведаю.

Асцярожна, як вопытны каханак, расшпільваю ўзяты на гафткі гарсэт беларускай Псіхеі — не спалохаць заўчасна, зазірнуць у вочы, пачуць біццё сэрца, адгадаць жаданні. Гібрыдная прыгажосць — змірэнне з крыўдамі скрыжаванае з надзеяй на справядлівасць — прыплюшчвае вочы, вызлізгваецца з рук, збягае ў маўчанне, то зноў, вярнуўшыся ў паспешлівы шэпт, па сваёй волі аддаецца пяшчоце.

... Некалі нехта аднекуль прыйдзе, нашых крыўдзіцеляў асудзіць, — шапаціць голас пад акампанемент маёвага даждж у. Яе голас? Мой? Тых, хто будзе пасля нас?

Дождж драбнее, мякне, акустычна, амаль па-бардаўску лашчыць струну даху, а мне прыходзіць на памяць маё першае, асабістае спадзяванне на цуд. Некалі, малечай, узяўся я быў за рамонт ровара. Адвінціў нейкія вінцікі, зняў адно кола, затым другое. Бацька з'явіўся нявядома адкуль і пачулася з-за спіны: Назад сабраць, ты зможаш? Ну, як сабраць? Якось, можа, удасца. Бацька паглядзеў, пацмокаў, пачухаў патыліцу: Не, сынок, якось можна ў калгасе поле араць. У сябе трэба рабіць добра.

У сябе. Месца на карце жыцця. Пачынаецца са свайго панадворка, затым пашыраецца на сваю вёску, горад, рэгіён. Пазл кропак і крокаў, свая краіна.

А ровар позняга дзяцінства мы сабралі з бацькам удваіх, сумесна. Як трэба, як для сябе.

Тэкст і фота
**Міхася АНДРАСЮКА**





# Адкуль вецер дуе

Асабіста я не часта нарываўся на думкі незалежных аналітыкаў, якія хаця б за месяц да цяперашніх выбараў спрагназавалі б хоць прыблізна тую актыўнасць, якая здарылася. Ды і сам я таксама не чакаў такога, хоць часамі стараюся і аналізаваць, і рабіць прагнозы. А беларускія выбаршчыкі, што называецца, рванулі з нізкага старту, і не спыніць іх.

Напэўна і ва ўлады такіх разумных аналітыкаў не знайшлося, каб заранёў папярэдзіць яе пра мажлівыя наступствы. Практычна ўсе схіляліся да думкі, што канчатковы вынік ужо вядомы. Таму і працэс вялікай цікавасці не ўяўляе, бо вядомы таксама. І жорстка памыліліся. Прынамсі разгубленасць у дыктараў праўладных тэлеканалаў адчувалася не толькі ў голасе, але і на выразе твару.

Бо працэс падкінуў масу нечаканасцей. І тут самыя смелыя загаварылі, што і канчатковы вынік можа таксама здзівіць. Бо, па праўдзе кажучы, вялікія чэргі да столікаў з сябрамі ініцыятыўных груп толькі для таго, каб паставіць свой подпіс, сапраўды ўражваюць. І гэта пад час пандэміі, якая не асабліва натхняе на вандроўкі ў цэнтр горада.

Ну а самыя дасведчаныя пачалі задаваць пытанне, калі ва ўлад здадуць нервы. Што здадуць, сумневу не было. Справа ў часе. І ўлада вырашыла той час не губляць без толку. І вось ужо ў старадаўняй Гародні на зборы подпісаў за Святлану Ціханоўскую, куды завітаў яе муж, вядомы блогер Сяргей Ціханоўскі, з'явілася і міліцыя. У выніку сам блогер і яшчэ некалькі чалавек з каманды яго жонкі аказаліся ў міліцэйскім пастарунку. Ну і справу на іх завялі, вядома ж.

Сілавікі ў хуткім часе агучылі сваю версію гэтага інцыдэнту. Паўтараць яе няма вялікага сэнсу. Хіба што ўсе ўжо з ёй азнаёміліся, як і паглядзелі ў сецівe відэа з сапраўднымі падзеямі таго дня. Больш цікавымі з'яўляюцца заявы нязменнага ўжо больш двух дзясяткаў гадоў кіраўніка краіны, які таксама балатуецца на гэтых выбарах.

Ну тое, што квітнеючую дзяржаву нейкія незразумелыя сілы ад яго не атрымаюць, гэта ўжо старое. Як і тое, што ніякіх майданаў у Беларусі не будзе. Да гэтых слоў таксама ўжо прызвычаіліся. Але ёсць і нешта новенькае. Начальнік краіны недвухсэнсоўна заявіў, што ведае адкуль дзьме вецер. І слухачам стала зразумела, што гаворка пра вецер з усходу. А раней палохаў вятрамі з захаду.

Увесь парадокс гэтай сітуацыі ў тым, што пра вецер з усходу гаворка не змаўкае з першых дзён незалежнасці Беларусі. Толькі вось цяперашні прамоўца той непагоды чамусьці не заўважаў. Іншыя на той вецер звярталі ўвагу. Гэты вецер увесь час здувае беларускія нацыянальныя каштоўнасці, родную мову, дэмакратычныя пачынанні, правы чалавека, надзею на свой шлях і многае іншае.

Толькі вось ёсць адно цікавае пытанне: а хто адчыніў дзверы для гэтага скразняку?

І адказ на гэтае пытанне таксама не сакрэт. Той і адчыніў, хто дваццаць шэсць год прахалоджваўся на гэтым ветры, усё шырэй адчыняў для яго вокны і дзверы, рушыў сцены, выкопваў памежныя слупы. Усё рабіў, каб гэты ўсходні вецер узмацняўся. А зараз западозрыў, што перарослы ў цунамі ён можа здуць і яго самога.

Ну што ж, у жыцця своеасаблівае пачуццё гумару. Яно можа падкінуць і не такія сюрпрызы. Ну а што да скразняку з усходу, то лагічна было б кінуцца зачыняць дзверы. Толькі штосьці на гэта не падобна. І як лакмусавая паперка будзе парад на Чырвонай плошчы ў Маскве, які перанеслі на чэрвень з-за пандэміі. А ў Беларусі не пераносілі і правялі ў траўні. Ці паедзе ў Маскву беларускі кіраўнік? Бо мае запрашэнне ад свайго расійскага калегі. Як і той меў запрашэнне на парад у Мінску. Толькі не паехаў.

Вось і будзе ўсё ясна з тым ветрам — працягвае ён дуць, ці пачаў засмоктваць як вір. Бо каб суцішыцца, то ён ніколі не суцішыцца. Будзе або дзьмуць, або засмоктваць.

Зрэшты, гэта праблема не толькі аднаго, ці некалькіх прэтэндэнтаў у прэзідэнты. Гэта праблема ўсяго народа. Не важна, які будзе кіраўнік цяпер ці некалі ў будучым. Гэтая праблема будзе для ўсякага. І як яе вырашаць, кожны мусіць ведаць ужо зараз. І як хацелася б пачуць гэта ад кожнага прэтэндэнта на сама высокую пасаду ўжо цяпер.

Віктар САЗОНАЎ



# Квакютлы і патлач

Калі б нас спакусілі спрошчаныя аналогіі, беларусы сёння культурна і ментальна набліжаюцца да першапачатковага грамадства індзейцаў пуэбла, а палякі — да надзвычай агрэсіўнага племені з вострава Добу ў Ціхім акіяне, а рускія — да племя квакютл з паўночна-заходняга ўзбярэжжа цяперашніх ЗША. Зразумела, гэта мадэльныя прыклады, якія неабавязкова прызначаюцца толькі вышэйзгаданым краінам. Акрамя таго яны часта паралельна перакрываюцца, ствараючы своеасаблівую мазаіку розных узораў. Аднак дзіўна, што яны настолькі адпавядаюць сучаснай характарыстыцы гэтых трох славянскіх грамад. Пачаць трэба з Рут Бенедыкт, амерыканскай антраполаг. Вывучаючы культуры плямён пуэбла, добу і квакютл, яна прыйшла да высновы, што культурныя ўзоры змяняюцца ў часе і з'яўляюцца сінонімам характару сучасных грамадстваў. І так па яе назіраннях, якія яна сабрала ў вядомай працы пад назвай „Узоры культуры”, людзі пуэбла шанавалі свой спакой. Ніхто з іх членаў не ўзвысіўся над іншымі, але ўсе хацелі, каб яго лічылі добрым чалавекам. Адносіны паміж поламі не суправаджаліся празмернай рэўнасцю або падобнымі экстрэмальнымі эмоцыямі. Сужэнская здрада не была жорстка пакараная. Смерць успрымалі як паварот лёсу, са спакоем. Нягледзячы на значную разнастайнасць уласнасці, выяўлялася эканамічная ці палітычная перавага невыпадкова. Дух супрацоўніцтва кіраваў жыццём сям'і і ўсёй суполкі. Як супольнасць, пуэбла функцыянавалі выдатна, але да часу. Калі яны сутыкнуліся з больш агрэсіўнымі плямёнамі, упалі. І з імі іх надзвычай цікавая культура. У сваю чаргу звычаі добу зусім супрацьлеглыя. Гэта было амаль параноічнае грамадства, у якім усе змагаліся супраць усіх, звяртаючыся да крадзяжоў, махлярства і нават магіі. Шлюбная здрада ў гэтай суполцы выклікала глыбокую і нязломную рэўнасць. Найважнейшае тут было гнанне і дагаворы. Аднак добу грунтавалася на жорсткім камерцыйным суперніцтве, на раўнамерна ахоўваных правах уласнасці і на надзеі атрымаць што-небудзь за кошт крадзяжу і крывадушнасці. Што датычыцца культуры квакютлаў, яны не пазбягалі суперніцтва, але любаваліся раскошным спажываннем, прымаючы характэрную форму абраду пад назвай патлач. У той жа час не падданыя, а начальнікі жорстка змагаліся, перамагаючы адзін аднаго па прызнанні і павазе ў здабыванні больш і больш прадметаў, і, нарэшце, дэманструючы знішчэнне асабістых рэчаў, у тым ліку спаленне ўласнай лодкі ці хаціны. У выніку застолляў, ратацыя наступных начальнікаў была вялікай, што падтрымлівала сацыяльную раўнавагу. Кожны, хто дасягнуў багацця, меў права прэтэндаваць на высокія ўзнагароды ў племені. Але ў яго таксама былі патрабаванні да патлачу. Наступны прэтэндэнт ад ўлады ішоў сапраўды такім жа шляхам — да новабагацкага правадыра па стан плебеізму, указанага ва ўзорах культуры свайго племені. Такое чарганне ўлад у канчатковым выніку вычарпала агульныя гаспадарчыя і эканамічныя рэсурсы ўсяго племені. Сёння яго ўдзельнікі жабруюць. І яны па-ранейшаму працягваюць звычаі патлач з вялікім энтузіязмам. Той, хто выпрасіць больш, з'яўляецца каралём, пакуль не страціць усіх грошы, якія ён збірае разам на агульнай імпрэзе.

Сучасныя грамадствы, хаця і адпавядаюць узроўню цывілізацыйнага прагрэсу, прынамсі ў думках, кожнае з іх з'яўляецца носьбітам іншага культурнага кода і тым самым паглынае дасягненні цывілізацыі рознымі тэмпамі. Ці будзе гэта больш справядлівы сацыяльны парадак, лепшае медыцынскае абслугоўванне, альбо больш высокі ўзровень агульнадаступнай адукацыі, альбо высокая палітычная культура? Аднак адрозненні паміж імі, хоць і тонкія, прыкметныя. Кожны народ мае своеасаблівы цыкл сваёй гісторыі, які больш-менш душыць яго бесперашкоднае развіццё. Гісторыя нацый, у сваю чаргу, часта абумоўлена геаграфічным становішчам, прыродным асяроддзем і добрасуседскай картай не заўсёды прымірэнчай палітыкі дзяржаў. Ёсць яшчэ адзін важны элемент, які вызначае сучаснасць і будучыню нацый. Гэта антрапалагічны элемент, пра які я пісаў вышэй. У рэшце рэшт, з вялікім спрашчэннем, падкрэсліваючы, што ўсе спрашчэнні рэалізуюць рэчаіснасць, антрапагенез нацый уладкоўваецца па глыбокіх, хаця і сёння адцвілых культурных мадэлях з першабытных часоў. Тут важна ўказаць, што гэтыя праекты не абмяжоўваюцца ні геаграфічным становішчам, ні прыродным асяроддзем, ні этнічнай ці расавай прыналежнасцю.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Каранавірус і рукі да працы

Прыйшла вясна, неўзабаве лета, а каранавірус не адпускае. Тыдзень назад у гэтым месцы крыху ўзгадаў я пра цяперашнія правалы ў турыстычнай галіне. Аднак гэта не адзіны сектар эканомікі, які адчувае своеасаблівыя турбуленцыі ад пандэміі. Перад нечаканымі выклікамі стаіць сельскагаспадарчая прадукцыя ва ўсёй Заходняй Еўропе, якой катастрафічна не хапае сезонных рук да працы. Асабліва пры цяжкай, фізічнай рабоце, пры збіранні спаржы, трускалак, памідораў ці звычайнай гароднíны. Танная рабочая сіла з Украіны, Беларусі, Румыніі ці Балгарыі стала так запатрабаванай, што некаторыя дзяржавы арганізавалі спецыяльны чартарны паветраны транспарт дзеля прытоку рук да працы ў сваіх сельскіх гаспадарках. Прытым трэба было так камбінаваць з абавязковым каранцінам, каб, напрыклад, людзі адразу пачалі працу ў полі ў сваіх гаспадароў і там лічыць, што гэта каранцін, а не два тыдні трымаць іх у асобных кватэрах без права выхаду і кантакту з вонкавым светам. Няйначай справы маюцца зараз у Польшчы, дзе недахоп перш за ўсё украінскіх рук стварае праблемы пры ўборцы садавіны і гароднíны. З Украінай дзеля іх вяртання адкрыты нават і адзін пешаходны пагранічны пераход. Таксама ў нас, на Падляшшы, ваяводская адміністрацыя стараецца спрасціць каранцінны абавязак для замежных рабочых у сельскай гаспадарцы. Аднак усе мы зараз бачым, што не маем дачынення са згаснаннем эпідэміялагічнай пагрозы ў краіне. Наадварот, колькасць хворых узрастае, найбольш у вялікіх агламерацыях Сілезіі ці Мазоўша. Таксама ў нас, на Падляшшы, у сталіцы ваяводства расце лік захворванняў у адміністрацыйных, асветных, шпітальных структурах, на прадпрыемствах. Зараз, здаецца, Беласток, на жаль, здабудзе каранавіруснае лідарства ў ваяводстве. Адмененыя строгія каранцінныя абмежаванні ў Польшчы пад ціскам гаспадарча-палітычнай сітуацыі і выбарчай прэзідэнцкай кампаніі могуць выклікаць чарговы пік захворванняў, які, мабыць, успыхне пры канцы гэтага месяца. Перад гэтым асцерагаюць аўтарытэтныя эпідэміёлагі краіны. Для некаторых казлом адпушчэння могуць стаць менавіта чужаземцы, якіх абвінавацяць у паўторным прывозе заразы. І тое, што на мяжы ніхто не прапускаюць з тэмпературай, што замежнікаў абавязваюць тэсты перад пачаткам працы не будзе мець ніякага значэння для стовуснай паганскасці. Каб не быць западозраным у паўтарэнні толькі пачутага, распавяду пра гісторыю, якой я быў сведкам у мінулую суботу. Менавіта ў сувязі з прыпадаючай у гэты дзень траецкай, бацькоўскай, памінальнай суботай мае крокі, сэрца і душа, з маскай на твары, прывялі ў Мікалаеўскі сабор у Беластоку. Адмененая забарона адносна колькасці вернікаў і дыстанцыі паміж імі ў цэрквах і касцёлах дазволіла прагным непасрэднай сустрэчы са словам Божым вернікам вярнуцца ў храмы. Так ускосна тады зусім не магу зразумець, чаму тады ў кіно ці тэатры будуць прадаваць толькі кожнае другое месца і маскі надалей будуць абавязковымі. Гэта ж тыя самыя людзі ходзяць і ў храм Божы, і ў святыню мастацтва, у тым ліку і ніжэйпадпісаны. Класічна хочацца напісаць, што без паўлітра не разбярэш. Але ў тым выпадку і гэта не дапаможа, а наадварот — такія адчайныя, лагістычна-эмпірычныя разважанні могуць выклікаць патрэбу паглыбіцца ў справу разам з чарговымі пляшкамі-неразбярыхамі. Але вяртаймася да галоўнага. Радасць ад адмены абмежаванняў на практыцы выглядала так, што большасць вернікаў малілася ў царкве без аніякага забеспячэння носа і рота. Ну і адлегласці не трымалі. Быццам усё ўжо за намі, а заклікі і перасцярогі лекараў, каб быць у масках — непатрэбшчына. Вядома, што пасля багаслужбы доўга нябачаныя людзі абменьваліся паміж сабою і поглядамі на грамадскія справы. На прыступках да сабора адзін з важнейшых саборных, свецкіх, яшчыкавых служыцелей на ўвесь голас распавядаў па-свойму прычыну росту захворванняў каранавірусам у Беластоку. І тут вінаватымі за ўсё засталіся...„беларусы і ўкраінцы, што папрыязджалі да нас збіраць трускалкі і прывалаклі назад каранавіруса”. Прамаўляў ён эмацыйна без аніякай маскі і бяспечнай адлегласці, так як і ягоныя слухачы. А потым, развярнуўшыся на прыступках, накіраваўся ізноў у бязмежна адкрытыя для ўсіх саборныя дзверы.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Будзе добра пры ўмове, што беларусы не будуць спаць

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Беларуская мова была заўсёды блізкім майму сэрцы прадметам. А чаму выбрала прафесію настаўніка? Пэўна таму, што на сваёй жыццёвай дарозе сустрэла людзей, якія былі для мяне ўзорам — у ПШ у Леўках святой памяці настаўніцу беларускай мовы Валянціну Ваўранюк, а ў Бельскім ліцэі — Зінаіду Дэмянюк. Гэта яна і дырэктар Аляксей Карпюк накіравалі мяне ў Варшаўскі ўніверсітэт на беларускую філалогію.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Зінаіда Дэмянюк — мая выхавацельніца з ліцэя і Тамара Русачык, якая была метадыстам беларускай мовы, калі я ўваходзіла на сваю прафесійную дарогу. Іх праца на ніве беларускасці ўсвядоміла мне, вельмі маладому тады чалавеку, як многа можна зрабіць для іншых. Мы, вучні, былі захоплены сваёй класнай кіраўніцай, а настаўнікі беларускай мовы — метадыстам, аўтарам многіх падручнікаў.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Лічу, што без супрацоўніцтва ўвогуле цяжка працаваць, а калі гаварыць пра навучанне роднай мове, гэта немагчымае. Я цяпер ужо другі год на пенсіі. На працягу ўсёй маёй прафесійнай працы заўсёды ўтрымлівала шчыльныя кантакты з настаўнікамі беларускай мовы з іншых школ (Вольга Сянкевіч, Іаланта Грыгарук, Янка Карчэўскі — з Гайнаўскага белліцэя), з метадыстамі, а калі стала працаваць у Бельскім ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча ў мяне шчыльныя сувязі наладзіліся з Зінаідай Дэмянюк, Аннай Бжазоўскай, Аліцыяй Нідаэ (нашымі настаўніцамі беларускай мовы). У гэтым школьным годзе я крышку працую з маленькімі дзяцьмі ў Непублічнай пачатковай школе № 1 імя архіепіскапа Лукі Война-Ясенецкага, дзе супрацоўнічаю са сваімі вучнямі, выхаванцамі з ліцэя. Думаю, што толькі супольная праца можа стварыць вартасныя рэчы.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Я як настаўніца ліцэя лічу, што ўсе, якія дзейнічаюць у карысць развіцця беларускай культуры, дапамагаюць настаўнікам. Маладыя людзі добрыя наглядальнікі і калі яны бачаць, што тое, аб чым гаворыцца на ўроках, гэта не пустыя словы, а мае адлюстраванне ў жыцці, то яны больш ахвотна ўключаюцца ў працу на ўроку, для асяроддзя. Як прыклад магу падаць «Бардаўскую восень», у арганізацыю якой уключаецца моладзь нашага ліцэя. Фестываль бардаў калісь арганізаваў ЗБМ, а цяпер Звяз у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты», які сваёй дзейнасцю актывізуе ліцэістаў. Вучні прысутнічалі таксама ў «Басовішчы». Калісь і цяпер вельмі прыкметная дзейнасць найстарэйшай арганізацыі БГКТ, дзякуючы якой вучні бяруць удзел у шматлікіх конкурсах. На ўроках беларускай мовы сустракаемся з «белавежцамі», наведваем Музей Малой Айчыны ў Студзіводах, рэдакцыю «Нівы». Лічу, што вельмі вялікую працу выконвае Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі вывучаючых беларускую мову АБ-БА. Думаю, што настаўнікі павінны далей ствараць і карыстацца ў сваёй прафесійнай працы часопісам «Беларускі настаўнік», які выдае АБ-БА.



**Яўгенія ТАРАНТА** (з дому Аврарчук) нарадзілася 7 верасня 1958 года ў вёсцы Казлы, што каля Бельска-Падляшскага. Пачатковую адукацыю атрымала ў Леўках. Закончыла Бельскі беларускі ліцэй і беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Пасля дыплома закончыла факультэт па геаграфіі і курсы па ахове навакольнага асяроддзя. У 1982 годзе выйшла замуж і распачала сваю прафесійную працу ў Пачатковай школе ў Курашаве (гміна Чыжы). Пасля дванаццаць гадоў была настаўніцай у Дубяжыне. У гэтых школах вучыла не толькі беларускай мове, але і рускай, геаграфіі, фізкультуры, ведам пра грамадства і іншым прадметам. Працавала ў спалучаных класах. З 1995 года да 2018 была настаўніцай беларускай мовы ў ІІ Агульнаадукацыйным ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Сама пра сябе кажа: «Я цяпер шчаслівая мама і бабуля. Цешуся, што дзеці, хаця раз'ехаліся па ўсёй Польшчы, ведаюць беларускую мову і дарогу да роднай хаты».

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Супольна з настаўнікамі прымала я ўдзел у арганізацыі мерапрыемстваў звязаных з гадавымі святамі (Каляды, Гагатуха, 25 Сакавіка, Вялікдзень, Купалле). Пад кіраўніцтвам Тамары Русачык разам з сяброўкамі, Аннай Бжазоўскай і Аліцыяй Нідаэ стварылі «Даведнік настаўніка беларускай мовы ў ліцэі» (два нумары). Вельмі карысным, так думаю, быў праект «ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча напярэдадні VI з'езда абітурыентаў і выхаванцаў», якога вынікам былі дзве публікацыі пра нашу школу.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Я найбольш любіла ездзіць з вучнямі на конкурс «Сцэнічнае слова» («Роднае слова»), дзякуючы якому ў маладых людзей адчыняліся дзверы ў паэзію.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Як гаворыць прыказка, адзін у полі не воін. Ёсць такія сітуацыі, калі настаўнік патрабуе дапамогі іншых. Хопіць толькі сказаць. З вялікай прыемнасцю ўспамінаю «Калядныя вячэры», калі мамы, бабулі рыхтавалі посныя стравы. Іх рэцэпты захоўваю да сённяшняга дня.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Для мяне гэта козыр. Тое, што дзеткі, моладзь вывучаюць беларускую мову добраахвотна вельмі мяне цешыць. Сведчыць аб тым, што яны хочуць больш ведаць, чым іх сябры з суседніх школ. Я заўсёды гаварыла сваім вучням: *Беларуская мова нікому ніколі не перашкодзіла. Яе веданне можа памагчы ў жыцці. Дзякуючы ёй мы багацейшыя і можа быць так, што яна дасць нам хлеб.*

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Бывала па-рознаму. Невялікі закід, калі зробім гэта ў наступным тыдні. Важнае, каб запланаваны матэрыял увогуле зрэалізаваць (на працягу года, пабыўкі ў школе), каб правільна падрыхтаваць навучэнцаў да матуральных экзаменаў (зноў думаю як настаўнік ліцэя).

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— На працягу 23-гадовай працы ў ліцэі ў мяне каля трыццаці лаўрэатаў і сарака фіналістаў у Алімпіядзе па беларускай мове. Калі працавала ў Пачатковай школе ў Дубяжыне мела адну фіналістку ў конкурсе па рускай мове.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Падручнікі, якія паўстаюць у нас, у Польшчы, створаны нашымі настаўнікамі ў большасці дапасаваныя. Калі я пачынала працу ў ліцэі, падручнікі былі з Беларусі і мы з сяброўкай стараліся выбраць такія тэксты, якія былі б зразумелыя нашай моладзі. Цяпер настаў час, што можна знайсці ў інтэрнэце матэрыялы на любую тэму. Настаўнік не рэалізуе падручніка, а праграму.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Я думаю, што цікавымі падручнікамі з'яўляюцца апошнія выданні Іаланты Грыгарук і Янкі Карчэўскага (для ліцэя). У мяне вялікі сентымент да «Буквара» Анатоля Клышкі, які мая бабуля ва ўзросце дзевяноста пяці гадоў чытала без акуляраў.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Ужо чарговы раз «Споведзь» Ларысы Геніюш.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Беларуская прэса для мяне адыгрывае важную ролю. Належу да людзей, якія хутчэй возьмуць у руку газету, часопіс, кніжку, чым адчыняць камп'ютар.

**— Якое паводле Вас самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Усе яны цікавыя і патрэбныя. А самым вялікім святам для мяне з'яўляюцца «Бардаўская восень» і летнія фэстыны.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Ёсць такія сітуацыі, але найчасцей гавару з імі па-свойму, на гаворцы. І самае цікавае, моладзь адказвае таксама. З вялікай прыемнасцю ўспамінаю вучняў-каталікоў, якія карысталіся толькі польскай мовай, а пад канец пабыўкі ў ліцэі стараліся размаўляць са мной на гаворцы. Беларускай літаратурнай мовай валодалі добра.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— У жыцці бывае па-рознаму. Былі і прыкрыя, але стараюся пра іх не думаць.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Калі бачу на праваслаўных могілках надпісы па-польску, а на маё пытанне чаму ты гэта так зрабіў чую адказ: «Бо мая дачка, сын не ўмеюць чытаць па-руску».

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Ёсць многа. Яны працуюць у розных установах у Польшчы. Цешуся, што некаторым спатрэбілася беларуская мова.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— На працягу трыццаці шасці гадоў сваёй працы было многа розных узнагарод (куратара, старасты, дырэктара, ганаровая грамата). Самая важная — удзячнасць вучняў. Калі пасля многіх гадоў сустракаю сталага ўжо чалавека, даўняга вучня, і ён цёпла выказваецца пра пабыўку на ўроках беларускай мовы і маю асобу, тады бачу, што варта было стаць настаўнікам роднай мовы (перажываць, нервавацца, плакаць, ставіць адзінкі алоўкам).

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Многія рэчы — тое, што мае дзеці ведаюць беларускую літаратурную мову і бывае, што выкарыстоўваюць яе ў сваёй прафесійнай працы;

— тое, што мае дзеці гавораць па-свойму, бо мова бабулі і дзядулі ім не чужая;

— тое, што, мой пяцігадовы ўнучак вучыцца беларускай мове;

— тое, што прадаўжаю сваю працу з маленькімі дзяцьмі.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Пабыўка над возерам Свіцязь.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У нашым кабінеце знаходзілася і знаходзіцца Пагоня — сімвал незалежнай Беларусі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Я аптымістка. Будзе добра пры ўмове, што беларусы не будуць спаць.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Першы гарадскі мёд

Каля 15 кілаграмаў веснавога мёду вырабілі пчолы з гарадскіх вуллёў у Беластоку. Першы збор ураджаю мёду ў Беластоцкім гарадскім пчальніку, які існуе з кастрычніка мінулага года, адбыўся 3 чэрвеня.

У кастрычніку 2019 года на пчальніку на скрыжаванні вуліц Яна Клеменса Браніцкага і Чэслава Мілаша паставілі пяць вуллёў — чатыры гістарычныя вуллі з розных рэгіёнаў Падляшша (у тым ліку адзін амаль стагадовы) і адзін вулей такі, якімі зараз карыстаюцца пчаляры. Пасеку па заказе горада даглядае вопытны пчаляр Мікола Мак.

Пчолы выдатна правялі зімоўку і працавалі з першых цёплых дзён. Мёд, які яны вырабілі, быў адабраны з вуллёў. Першы вясновы мёд вырабляецца з сумесі нектару вербаў, дзьмухаўцоў, каштанаў (ахопленых спецыяльнай праграмай на 10 гадоў абароны дрэў каштанаў ад каштанавай молі), клёнаў, пладовых дрэў, спецыяльна пасаджаных каля пасекі, і іншых раслін, якія квітнеюць вясной у горадзе. Пры першым ураджаі было атрымана каля 15 кг мёду. Плануецца збіраць ад 10 да 15 кг мёду з кожнага вулля (усяго 50-75 кг сыравіны). Мёд пасля цэнтрыфугавання і ачысткі будзе абследаваны, потым расфасаваны ў невялікія слоічкі і прызначаны для рэкламных мэт горада. Мёду нельга прадаваць, а толькі раздаваць — напрыклад, гасцям, якія наведваюць горад, альбо жыхарам пры розных мерапрыемствах. Беластоцкая гарадская пасека — не вытворчая пасека, а перш за ўсё адукацыйны праект. Гэта частка праграмы „Абарона апыляльных насякомых у раёне Беластока".

— Ідэя стварэння першага гарадскога пчальніка ў Беластоку была задумана падчас стварэння кветкавых лугоў, як натуральны працяг гэтага праекта. Такім чынам мы хочам звярнуць увагу нашых жыхароў на ролю і вялікае значэнне гэтай групы жывёл для жыцця людзей і іншых жывых арганізмаў, — сказаў прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі.

Сёлета плошча кветкавых лугоў Беластока павялічылася да звыш 7 гектараў — у асноўным на жаданні саміх жыхароў, якія хацелі мець іх побач сваіх сяліб. Працы, звязаныя са стварэннем кветкавых лугоў, пачаліся ў першай палове красавіка. Палеткі сланечніку і рапсу, шматгадовыя і аднагадовыя лугі, як і ў мінулым годзе, упрыгожылі горад і паўплываюць на яго біяразнастайнасць.

Кветкавыя лугі створаны ў Беластоку ўздоўж дарожнай паласы і камунальных участкаў. Гэтыя ўчасткі абсаджаны традыцыйнымі відамі квітнеючых раслін. Таксама пасеяны рапсавыя і сланечнікавыя палеткі. Сёлета сланечнікі растуць на трох паверхах. З боку дарогі — карлікавыя віды, у сярэдзіне кругавой развязкі паўкарлікавыя, а ў цэнтральнай частцы — сланечнікі звычайнай вышыні. На меншых кругавых развязках і плошчах прымяняецца двухпавярховая сістэма пасадкі. Гэтая змена забяспечыць лепшае прадстаўленне раслін і дазволіць вадзіцелям аўтамабіляў любавацца ўсёй лугавой прасторай. Гэта таксама палепшыць бачнасць на вуліцах.

(лук)





# Перш за ўсё каардынацыя грамадскіх дзеянняў

**Год з новай дырэктаркай Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку. Магдалена Лотыш — гэта адна з маладзейшых дырэктараў на такой пасадзе на Падляшшы. Хаця супрацоўнічала з ГЦК шмат гадоў, праца ў якасці дырэктара прынесла новыя выклікі і крыху памяняла культурнае аблічча гміны. На працягу года прайшло шэраг новых ініцыятыў, у тым ліку і дабрачынныя акцыі, якія памаглі жыхарам у складаных жыццёвых сітуацыях. З дырэктаркай Гміннага цэнтра культуры Магдаленай Лотыш размаўляе Уршуля Шубзда.**

**— Мінуў год з часу, калі Ты стала дырэктаркай Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку. Ці ўдалося здзейсніць усе намеры, бо вядома, што не ўсё адразу атрымліваецца.**

— Так. Думаю, што ў вялікай частцы атрымалася мне зрэалізаваць першапачатковыя планы. Перш за ўсё зрабіла парадкі ў дакументах. Удалося стварыць рэальную базу, якая адпавядае таму, што зараз тут адбываецца. Таксама падаем шматлікія заявы, каб атрымаць грошы. Мне ўдалося наладзіць больш заняткаў, у тым ліку платных. Мне здаецца, што гэта было добрае рашэнне — невялікая аплата занадта не абцяжарвае бацькоў, а дзеці маюць магчымасць развівацца і гэта ўсё тут — на месцы.

**— Вядома, што зарплаты ў асяродках культуры таксама невысокія, таму такія невялікія аплаты пэўна падбадзёрваюць вядучых майстар-класы?**

— Так, відаць гэта па колькасці дзяцей, якія прымаюць удзел у майстар-класах. Гэта, натуральна, матывацыя для вядучых, але таксама і для мяне. Лічу напрамак добрым, па-мойму ідзем у вельмі добрым напрамку. Планаў маем больш. Я, як маладая дырэктарка, таксама сустракаюся з тым, што не ўсё магу адразу зрабіць. Напэўна хацелася б яшчэ больш і яшчэ лепш, тым больш у першым годзе дзейнасці. Але зышла я на зямлю і лічу, што рэчы, якія атрымаліся на працягу года, гэта о'кей. Калектыў, з якім я працую, вельмі добры. Я на самой справе цаню, калі нехта звяртае мне ўвагу. Сама таксама часта пытаюся ў людзей, хаця б у краме, што ім падабалася, што трэба было паправіць, а чаго не, бо гэта ўсё для іх!

**— Відаць, што таксама ўвесь час стараешся павышаць свае веды і кваліфікацыі?**

— Калі не развіваешся, застаешся на месцы. Тут кожны дзень чагосьці новага вучыцца. Я, шчыра кажучы, таксама не люблю гэтых дакументаў, той цэлай адміністрацыі, але тут так шмат гэтага, што трэба паглядаць, навучыцца. Да гэтага даходзяць заняткі, ці пісанне праектаў, якія на самой справе я навучылася пісаць самастойна. Я маю вялікую падтрымку з боку маёй бухгалтаркі, улад гміны. Я не баюся ставіць пытанняў, не баюся сказаць, што нечага звычайна не ведаю. Прымаю ўдзел у розных майстар-класах і гэта станоўча перакладаецца на маю працу. У студэнцкія часы чалавек большую ўвагу прыкладаў „забаўляльнаму" боку, чым навуцы (*усмешка*). Зараз зусім інакш! Хаця мне 32 гады, маю ахвоту пазнаваць новае.

**— Здаецца, што даволі паспяхова атрымліваецца вам, як асяродку культуры, з праектамі, бо шмат што адбываецца.**

— Дзякуючы вонкаваму фінансаванню нам атрымліваецца ладзіць шматлікія акцыі і ініцыятывы. Часам гэта невялікія грошы, з якіх я таксама задаволеная. Кожны чарговы праект, гэта наша праца, якой я і мой калектыў не баімося. Гэта файна. Часам праект вымучыць, але калі нешта з'яўляецца, карыстаемся гэтым. Мы таксама падалі заяву на далучэнне да праекта „Kultura w sieci". Не ведаю ці атрымаецца, бо надышло каля 12 тысяч такіх заяў, але прабуем. Напэўна я мела б сама да сябе прэтэнзіі, калі б не папрабавала.

**— Таксама Табе атрымалася стварыць сяброўскі калектыў, складзены з сапраўды творчых людзей. З'явіўся неверагодна прыгожы мураль пластычкі Марыі Мялешкі, басіст у час пандэміі можа ўмела пакласці кафелькі. Гэта для цябе, як дырэктаркі, важна?**

— Ганаруся сваім калектывам, бо сітуацыя з каранавірусам прымусіла нас да гэтага, каб памяняць тое, чым штодзень займаемся. І так усё перавярнулася, што сябра (Радаслаў Кулеша), які звычайна займаецца прамоцыяй і графікай, пачаў здымаць ролікі, самастойна навучыўся мантажу — гэта выдатна. Грыша Карповіч — акустык і басіст — кладзе кафелькі і малюе сцэны, наша пластычка Марыся зусім памяняла сцяну пры лесвіцы. Дзякуючы ёй, чалавек, які будзе да нас заходзіць, зразумее, што знайшоўся ў цікавым свеце. Спадзяюся, што незадоўга будзеце маглі гэта пабачыць. Таксама Дарота Сульжык, рэдактар „Гарадоцкіх навін", выказалася ініцыятывай і павяла цікавыя майстар-класы па рукадзеллі. Дарота таксама рыхтуе цікавыя акцыі звязаныя з газетай. З намі таксама бухгалтарка Гося Грахоўская, якая бачыць, што маем іншыя расходы грошай і сочыць за разумным выдаткаваннем... і ёсць я. Нам таксама атрымалася зрабіць файныя рэчы анлайн. Пра нас таксама можна было пабачыць дакументальны фільм „Сапраўдны герой" на TVP 1. Здаецца, што ім спадабалася акцыя „Маска для сеніёра", над якой працаваў цэлы калектыў і розныя гарадоцкія ўстановы. Па-мойму, пандэмія паказала, што Гарадок умее аб'яднацца. Каранавірус даў моцны штуршок, але таксама звярнуў увагу на слабейшых, якія на той момант патрабавалі дапамогі. Усё-такі хочацца вярнуцца ўжо да нармальнасці. Таго жадаю, перш за ўсё, лакальным прадпрымальнікам.

**— Але, здаецца, што яшчэ перад той няшчаснай пандэміяй, вы, як асяродак культуры, часта ладзілі акцыі, якія мелі дапамагчы слабым, патрабуючым?**

— Так, адным з яркіх прыкладаў з'яўляецца Вялікі аркестр святочнай дапамогі, які сёлета назбіраў рэкордную суму грошай (амаль 25 тысяч злотых). Гэта напэўна нас падбадзёрыла. Быў таксама харытатыўны турнір для блізнючак — Надзі і Лены Марцінчык. Да сёння гэта ўспамінаем. Сям'я дзяўчат падкрэслівала як многа для іх гэта абазначала. Мне здаецца, што сённяшні асяродак культуры гэта не толькі арганізацыя пластычных, музычных ці танцавальных заняткаў, але перш за ўсё каардынацыя грамадскіх дзеянняў. Мы, як цэнтр культуры, павінны з'яўляцца ініцыятарамі і падтрымліваць дзеянні, не звяртаючы ўвагі на тое, ці мы з'яўляемся арганізатарамі, ці толькі суарганізатарамі — гэта няважна. Вынік і эфект нашых ініцыятыў сапраўды можа выклікаць файную лавіну добрых дзеянняў.

**— Дзякую за размову.**

Фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Бабры вяртаюць
## натуральнае абвадненне палёў

**У другой палове мінулага стагоддзя на Гайнаўшчыне масава праводзілася меліярацыя і дрэнажаванне палёў. Гэтыя дзеянні супадалі з паглыбленнем, пашырэннем і выпрамленнем рэк. Калі засуха апошнімі гадамі стала асабліва моцна адмоўна ўздзейнічаць на сельскагаспадарчую вытворчасць, эксперты сталі прапанаваць інвестыцыі, якія маюць вяртаць натуральнае абвадненне палёў. Экспертаў апярэдзілі ўжо бабры, якія ў некалькіх месцах на рацэ Белай, побач лугоў жыхароў вёскі Тапоркі сталі рабіць свае плаціны і запруджваць ваду, спрычыняючыся да лепшага абваднення навакольных лугоў. Мясцовыя жыхары захапляліся моцнымі канструкцыямі баброў, якія не развальваліся пад напорам запруджанай вады перад плацінай.**



Бабрыная канструкцыяй

Добра запамятаў я вельмі снежныя зімы ў сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя, калі здаралася, што можна было выходзіць на лыжах з панадворка на загародзе па замерзлым снезе па-над плотам. Вялікая колькасць снегу забяспечвала вясной і часткова летам абвадненне палёў. Аднак тады на нізка распаложаных палях гаспадары доўга не маглі распачаць падрыхтоўкі да сяўбы ярыны, а пасеяная восенню азіміна вымакала. У гэты час сяляне радаваліся меліярацыі і дрэнажу сваіх палёў. Старэйшыя жыхары Гайнаўшчыны памятаюць, як многа вады праз цэлы год стаяла ў Белавежскай пушчы, дзе месцамі немагчыма было прабрацца цераз балота. Вялікія разлівы рабіліся вясной у наваколлі ракі Нарвы і яе прытокаў. Паглыбленне і выпрамленне ракі Нараўкі праводзілася ў XIX і XX стагоддзях. Паглыбляліся таксама іншыя рэчкі ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі, між іншым рэчка Лясная. Памятаю, як Лясная разлівалася ў Гайнаўцы ў час веснавога разводдзя, калі вада сплывала з палёў і лясоў. Добра запамятаўся мне таксама краявід разлітай ракі Белай у Бельску-Падляшскім. Рака Белая праплывае між іншым побач вёскі Тапоркі Кляшчэлеўскай гміны. Каля Тапароў, як мясцовыя жыхары называюць гэтае сяло, рэчка Белая таксама крыху разлівалася на лугі, што ў мінулым было натуральнай з'явай. Калі засуха апошнімі гадамі стала асабліва дакучаць, эксперты пачалі прапанаваць інвестыцыі па абвадненні палёў, каб такім чынам дапамагчы сельскай гаспадарцы. За такую работу ўзяліся бабры на рацэ Белай у наваколлі вёскі Тапоркі і сталі рабіць там плаціны.

— Раней бабры рабілі плаціну на Белай побач лугоў вёскі Маліннікі, якія абрабляюць таксама нашы гаспадары. Вада там часткова залівала лугі і туды таксама складана было дабірацца па калдобістай дарозе. Па гэтых прычынах нашы гаспадары канчаткова адракліся касіць там траву і сушыць сена. Таксама зрабілі гаспадары з Шарнёў і Маліннік. Аднак з-за плаціны стала больш вады ў рацэ. Нашы гаспадары гэтым карысталіся і паілі кароў і коней. Тады яшчэ не было такой засухі, як у апошніх гадах, і травы для кароў было пад дастаткам, — стала расказваць Людміла Мрук з Тапаркоў. — Рака Белая каля нашых лугоў не была ў мінулым глыбокай і калі мы станавіліся там на дне, то бераг быў на ўзроўні жывата. Звыш дзесяці гадоў таму прыехалі велізарныя экскаватары і меліярацыйная тэхніка і так паглыбілі раку Белую, што з дна яе да ўзроўню берага побач нашых лугоў было ўжо вышэй росту чалавека, а далей нават амаль у два росты. Магчыма, што таму паглыбілі раку, каб вада з лугоў і палёў хутчэй сплывала і каб на ніжэйшых участках можна было хутчэй уехаць на луг трактарам і скасіць траву. Апошнімі гадамі панавала засуха. Рака наша вельмі глыбокая, але ў ёй было вельмі мала вады.

У апошніх дзесяцігоддзях паглыбленне рэк праводзілася таксама і ў іншых месцах на Беласточчыне. У тых раёнах Польшчы, дзе здараліся вялікія паводкі, паскорыліся працы на дне і берагах рэк, каб у выпадку вялікіх дажджоў як найбольш вады маглі хутка ўвабраць рэкі і канчаткова адвесці ў Балтыйскае мора.

— Пазней бабры сталі будаваць плаціну на рацэ Белай бліжэй Дзмітрыеўскай царквы, якраз насупраць нашага лугу. Рака перад гэтай *тамай* запоўнілася вадой ажно па берагі, але не разлівалася на лугі. Затое за плацінай было так мала вады ў рэчцы, што немагчыма было набраць яе з дна вядром, каб напаіць кароў. Гаспадары, якія каля рэчкі пасвілі кароў, мусілі вазіць ваду з калодзежаў, каб напаіць статак, — прадоўжыла расказ Людміла Мрук. — Бабры пасяліліся якраз на нашым лузе і вырылі норы ў зямлі, у якія дабіраліся з вады ў рацэ. Я спачатку не ведала аб норах баброў і раптам трава пада мной абламалася і я правалілася ў адну такую нару і па жывот апынулася ў зямлі. Перапалохалася моцна і, абапершыся на руках, хутка выпаўзла з нары на траву. Пазней мы баяліся, каб карова не абвалілася ў нару і сталі адгароджваць наш луг ад рэчкі. Сваяк наш, які там дакошваў траву, забыўся аб норах і адным колам трактара абваліўся ў нару, але больш плыткую. Калі колькасць вады ў рацэ перад плацінай паменшала, мы ўставілі доўгую драўляную драбіну ў рэчку і па ёй апускаліся, каб набраць ваду. Апасаліся, што калі па беразе будзем спускацца ў паглыбленую раку, можам абваліцца, а там жа было вады больш, чым у рост чалавека. Тады на лугах, распаложаных непадалёк ад плаціны, трава расла вялікай, таму што рака перад плацінай была напоўнена вадой, якой узровень у глебе непадалёк ад ракі таксама быў высокі.

Жыхары Тапаркоў захапляліся майстэрству баброў, якія выкарысталі ўсё голле і дрэўцы ў наваколлі для будовы плаціны. Гаспадарам гэта спадабалася, паколькі бабры расчысцілі навакольныя равы з кустоў і дрэўцаў, якія сталі там расці, паколькі равы ў Кляшчэлеўскай гміне не расчышчаліся. Водная суполка ў гэтай гміне спыніла сваю дзейнасць і жыхары Тапароў нават выяўлялі задавальненне, што не трэба плаціць складчын у водную суполку, а ў час засухі не бачаць яны патрэбы расчышчаць равы.

— Калі паглыблялася рака Белая, яе берагі ўзмацняліся, каб не абсоўвалася з іх зямля на дно рэчкі. Паміж калочкамі запляталася там голле. Калі бабры сталі будаваць *таму*, пазбіралі для сваёй будоўлі голле і калочкі. Пасля калочкі бачылі мы на плаціне. Мы былі моцна здзіўлены, як бабры патрапяць так пасплятаць голле, калочкі і тоненькія дрэўцы, каб атрымалася такая салідная канструкцыя. Плаціна трымалася моцна і не развальвалася пад напорам вялікай колькасці вады. Голле і ўсю іншую драўніну бабры так моцна абляпілі зямлёй, можа і глінай, што перад *тамай* вада напоўніла раку амаль роўна з берагамі, а за *тамай* было мала вады ў рэчцы, — сказала жыхарка Тапаркоў Людміла Мрук. — У мінулым годзе бабры збудавалі плаціну на Белай бліжэй Залешан. У гэтым годзе спачатку ў рэчцы было вельмі мала вады, але пасля апошніх дажджоў сабралася перад *тамай* больш вады. Людзі заўважылі каля плаціны аднаго бабра, то можа і другі там ёсць.

— Наша рака каля Тапаркоў раней не была вялікай, але была моцна пашырана і паглыблена. Былі сродкі на рэгуляцыю рэк і так зрабілі на нашай рэчцы. Хацелі пэўна, каб вада хутчэй сплывала вясной з лугоў і палёў, паколькі вясной у некаторыя месцы нельга было ўехаць на трактары. Далей рака Белая плыве яшчэ шырэйшым рэчышчам, праплывае праз Бельск-Падляшскі і ўліваецца ў Арлянку каля Белай, — удакладніў жыхар Тапароў.

— Бабры рабілі плаціну ў шырокім меліярацыйным рове. Магчыма, што падабралі гэтае месца таму, што там расло многа ляшчыны. Разрэзвалі яе і ўсе іншыя дрэўцы ў наваколлі і збудавалі так моцную плаціну, што мы, ідучы на свой луг, праходзілі па моцна сплеценых і збітых голлях як па мастку, — заявіла Людміла Мрук.

Раней жыхары Тапаркоў і навакольных вёсак не дацэньвалі дзейнасці баброў у плане паляпшэння абваднення палёў. Яшчэ ў апошнім дзесяцігоддзі здаралiся так дажджлівя вёсны, калі жыхары Тапаркоў доўга не маглі ўехаць на трактарах на ніжэй распаложаныя палі, каб пасеяць ярыну. Вада доўга прыкрывала траву на лугах і стрымлівала сенакос. Аднак у час мінулагодняй засухі ўсё і тут памянялася. Трава на лугах у час засухі вырасла невялікай і другога яе пакосу гаспадары не касілі, паколькі трава амаль зусім высахла. Жыхары Тапароў мусілі рэгулярна карміць кароў у хлявах. Апошнімі тыднямі паявіліся дажджы і то нават даволі праліўныя. Напэўна спрычыняцца яны да росту травы, збожжа і бульбы ў бліжэйшых тыднях. Аднак пасля мінулагодняй засухі, вельмі мізэрных ападкаў снегу зімой і дажджу вясной, узровень вады ў глебе застаецца надалей на вельмі невысокім узроўні. Плаціны збудаваныя бабрамі спрычыняліся да павышэння ўзроўню вады на лугах жыхароў Тапаркоў і лепшага росту травы, хаця здаралася, што вада ў дажджлівыя вёсны і леты залівала некаторыя сенажаці. Гэта ўсё адбывалася на невялікай тэрыторыі ў наваколлі ракі Белая. Каб хаця часткова абмежаваць адмоўныя паслядоўнасці засухі на больших тэрыторыях, патрэбныя большыя і трывалыя інвестыцыі. Сёлетнімі прыярытэтнымі задачамі Дзяржаўнага воднага гаспадарства «Польскія воды» будуць інвестыцыі, якія маюць абмяжоўваць адмоўнае ўздзеянне засухі на сельскагаспадарчую прадукцыю. «Польскія воды» плануюць выдаткаваць 18 мільёнаў злотых на інвестыцыі, якія маюць спрычыніцца да супрацьдзеяння адмоўнаму ўплыву засухі ў Падляшскім ваяводстве. Планаваныя інвестыцыі перш за ўсё маюць затрымліваць як найдаўжэй ваду ў цячэннях рэк, меліярацыйных равах і іншых водных цёках, каб гэтая вада спрычынялася да абваднення сельскагаспадарчых палёў. Маюць там рамантавацца існуючыя і будавацца новыя застаўкі, парогі і нават рачныя плаціны, якія здаўна на рэчках і ў меліярацыйных равах будуюць бабры.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

Зорка для дзяцей і моладзі


# Я буду рабіць вам зд'енця!

Амаль усе хлапчукі ў дашкольным узросце мараць, каб у дарослым жыцці стаць пажарнікамі. Захапляюць іх вялікія машыны, лоўкасць і спрыт, з якім пажарнікі спяшаць да пажару і дапамагаюць выкараскацца з дарожных катастроф.

Часам захапленне прыходзіць нечакана.

Нядаўна вёску Кутлоўка, што ў Нарваўскай гміне, наведаў фатограф Юрка Раецкі. Ён аўтар папулярнага ў краіне сайта Klimaty Podlasia. Спадар Юрка здабыў давер і сэрцы бабуль, мужчын і звяроў. Яны ахвотна выступілі ў ролі фотамадэляў і пасля цешыліся здымкамі і каментарыямі на сайце.

Праўда, самы вялікі фурор выклікаў «дружны» здымак катоў і сабачкі, якія раскошна адпачываюць на сходках вясковай хаты. Здымак набраў за 500 лайкаў і 17 перапостаў. Жывінкі, падапечныя Марыі Кандрацюк, то-бок мамы аўтаркі допісу.

А вось дзеці рэдка з'яўляюцца ў фотахроніцы Юры Раецкага.

Недахоп падыктаваны сітуацыяй. У адміраючых вёсачках, як згаданая Кутлоўка, дзяцей як на лякарства. Але здараюцца выключэнні!

Адзін з прыгажэйшых здымкаў з Кутлоўкі — фатаграфія маленькага хлопчыка, які поіць ягнятка праз соску з бутэлькі. На здымку ён разам з суседкай, цёцяй Весяй. Гэта Вера Русіновіч — вядомая чытачам «Нівы» народная паэтка. Яна кожны дзень прыязджае ў родную вёску даглядаць жывёл.

Тры дні пасля прыезду фатографа я таксама пабывала ў згаданай вёсачцы. Адразу на наш панадворак (дзе тыя дружныя каты і сабачка) завітаў герой цудоўнага здымка. Чатырохгадовы Войтэк Занкевіч, бо пра яго мова, прыбег паглядзець хто гэта прыехаў! І адразу заявіў:

— Я буду рабіць вам зд'енця!

Ён дабыў з кішэні свой цацачны фотаапарат і, як сапраўдны Юрка Раецкі, пачаў фатаграфічную сесію... Хлапчук пераняў ад свайго майстра не толькі захапленне. Ён падбіраў падобны фон, як і аўтар сайта Klimaty Podlasia. Ён паглядзеў углыб панадворка, дзе пасвіліся бараны і авечкі і прапанаваў:

— Але до зд'енця то пойдэм до овэчок!

Кажуць, двойчы нельга ўвайсці ў тую самую раку, аднак дзякуючы фантазіі дзяцей часам такое бывае...

Пасля фотасесіі-гульні чатырохгадовы фатограф Войтэк сарваў адцвіўшы дзьмухавец і здзьмухнуў яго шарык у мой твар.

**Ганна Кандрацюк**



Klimaty Podlasia, фот. Юрка Раецкі



Фота Г.К.

Павел Марціновіч

## Навальніца

Навальніца,
Навальніца,
Неба можа
Абваліцца.

Гром грыміць,
Маланкі блішчуць,
Лупіць дождж,
А вецер – свішча!

Годзе вам усім
Сварыцца!
Сціхні,
Сварка-навальніца!

# УВАГА КОНКУРС! № 24-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 21 чэрвеня 2020г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Нахмурыцца,
насупіцца,
у слёзы ўдарыцца
— нічога не застанецца.**

**Н.........**

**(з народнага)**

**Адказ на загадку № 20-2020: сон-трава. Узнагароду, «Беларускую маляванку для дзяцей і дарослых» (з прыгожымі малюнкамі ды цудоўнымі вершамі) выйграў Адрыян Жукоўскі. Віншуем!**

# Дацягнулі на дыстанцыйным

Набліжаецца завяршэнне навучальнага года. Не толькі настаўнікі, але і бацькі наракалі на дыстанцыйнае навучанне. Аднак як адным, так і другім хапіла часу, каб прывыкнуць да гэтых новых дзіўных абставін і пачалі рэарганізаваць сваё сямейнае жыццё пад дыктант вярхушкі. З аднаго боку старэйшыя, якія ўжо даўно завяршылі вучобу, мелі магчымасць зазірнуць у прывабныя падручнікі, прыпамінаючы сабе забытыя ўжо веды або засвоіць зусім новыя. Я сама, дзякуючы свайму малодшаму брату, прыпомніла сабе аб англійскім абсурдным гумары Монты Пайтана. Гэта было таксама штуршком для таго, каб яшчэ раз паглядзець яго кіно, якое чалавек не да канцы мог зразумець у дзіцячыя гады.

Цягам пандэміі вучні пачалі думаць як выкарыстаць сваю энергію, каб не прырасці да крэсла. Некаторыя свабодны час выкарысталі на кампанейскія вогнішчы, другія — на роварныя прагулкі і гонкі, а былі і такія, якія вырашылі „зарабіць на пандэміі" і пачалі паралельна працаваць. „Ведаеце, колькі грошай можна зарабіць у дзядулі ?!" — ганарылася адна з маіх малодшых сяброўак. Часта пасля работы кідаліся на вячэру, каб пазней яшчэ паспець даслаць апошнія заняткі для патрабавальных настаўнікаў. Пры тым усім таксама трэба было ў сваёй сям'і або ў крузе сяброў знайсці „спецыялістаў", якія растлумачаць матэматыку ці дапамогуць зрабіць практыкаванні па фізіцы ці хіміі. Вядома, заўсёды яшчэ заставаўся інтэрнэт. А гэтым вучні ўмеюць карыстацца лепш і больш эфектыўна, чым старэйшыя.

Вучні не крыўдавалі на „няшчасны лёс" ці недахоп заняткаў. Проста, нікога не абвінавачвалі, не скардзіліся, а прымалі жыццё такім, якім яно ёсць і добра ўсё ім атрымалася. Таму спакойна можна сказаць, што дыстанцыйнае навучанне прынесла ім карысць, а нам, старэйшым, таксама даказала, што сапраўды не можам наракаць на, гэтак званае, новае пакаленне.

**Тэкст і фота Уршулі Шубзды**




# Міфы
## старажытных беларусаў

**ГРАД** – у адрозненне ад дажджу, які звыкла спрыяў ураджаю, лічылі паганай з'явай прыроды. Бо ён біў і псаваў усё, што сеялі на полі і ў агародзе. Яго ўспрымалі як божае пакаранне за людскія грахі. Прычынай граду лічылі парушэнне кімсьці маральных норм ці забарон. Напрыклад, калі нехта рубаў дровы ў вялікае свята ці нечым цяжкім грукатаў аб сцяну.

Нашы продкі спрабавалі ўздзейнічаць на град, а дакладней яго папярэджваць і дзеля гэтага спраўлялі магічныя абрады. Старажытныя беларусы перахрышчвалі градавую хмару, каб яна абышла бокам іх вёску, мужчыны махалі на яе шапкамі, гаворачы: «Куды шапка, туды хмара!».

Лічылася, што ад граду, а таксама ад грому, маланкі і праліўнога дажджу дапамагалі свечкі, асвечаныя на Грамніцы ці ў Чысты чацвер. Іх ставілі запаленымі ў акне ў час буры.

Дзеля задобрывання граду спраўлялі Юр'еўскія рытуалы, абыходзілі палеткі з азімінай, спажывалі рытуальную яду і частку яе закопвалі на мяжы. Былі яшчэ іншыя, хатнія способы задобрывання стыхіі. У час навальніцы гаспадары выкідалі за парог прадметы звязаныя з агнём: хлебную лапату, качаргу ці вілкі.

На Палессі, каб град не пабіў пасеваў, у зерне, прызначанае для сяўбы, дасыпалі зярняткі з дажынкавага вянка — «перапёлкі». Ахоўную ролю выконвалі таксама зярняты з кветкі складзенай са сцёблаў жыта, пшаніцы, аўса, ільну і асвечанай на Успенне.

На Гродзеншчыне прымянялі магічны рытуал, каб зберагчы пасевы ад граду. Людзі апярэзвалі пасевы ніткамі, выцягнутымі з ручніка-абыдзённіка, вытканага жанчынамі за адну ноч.

Нашы продкі мелі хатні спосаб, каб спыніць град. Калі ён пачынаў сыпаць з неба, першае дзіця ў сям'і павінна было злавіць першыя градзінкі і ўкінуць іх у печ.

Па сённяшні дзень на Падляшшы святкуюць Градавую сераду — яе адзначаюць у першую сераду пасля Сёмухі і Вялікадня. У гэты дзень, лічаць у народзе, нельга працаваць, каб не наклікаць бяды, то-бок ураганаў з градам.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Польска-беларуская крыжаванка № 24-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 20-2020:**

Нагода, нос, ляснік, пеўнік, бяроза, клад, Агата, ікона, даліна, ака, як. Ікс, поле, лук, сяўба, ода, сняданак, гарнір, гала, ікона, Таня, Ада, парадак.

Узнагароды, беларускія наклейкі, выйгралі **Аліўка Баранчук** і **Мілена Федарук.** Віншуем!




Фота Адама Паўлоўскага

Сымон РАМАНЧУК

# Чарадзеі (ч.2)

Такія, вось, у нас тут базары, мацэнькі-бацэнькі!.. І не ведаеш (калі цябе сюды твой дзень занясе!) дзе ты?.. У тэатры-чытальні-фільмавай школе. Вось, звестка для ўсіх з-па-за Лодзі: школа наша славута-сусветная-фільмавая ў нас на... Тарговай вуліцы, базарнай — значыць-выходзіць, вось як умясцілася!... Паслухаеш хлопцаў з рынку на Дольнай і рашыш, што ты на нейкай універсітэцкай філалогіі!.. Услухаешся і — рашыш: так! Сюды пераехала-перанеслася-перакачавала з канферэнц-залаў вялікамястовая адукацыя!.. Нашы тут прадаўцы — той і той, гэты і яшчэ гэты, ткні пальцам і ў грудзі такія пападзеш — так — так! — яны з дыпломамі! А дзе праца?!. Філалогія? Гісторыя? Літаратура?.. Што гэта такое, цяпер?. Тут за свой фаянсавы посуд больш заробіш!..

„Żeby te księgi zbłądziły pod strzechy", — марыў калісь Адам Міцкевіч, паляк-класік з-пад Навагрудка, з беларускімі каранямі... Trafiły!.. Моладзь навучылася і не ведае, дзе сябе «прымасціць»!.. „Księgi"? Сёння?.. Базар тожа стаў сцэнай — кафедрай!.. НЕ дзівуйся, чалавеча, што хлопец табе тут — на памяць! — «чэша» Шэкспіра, Міцкевіча, Славацкаага, Пушкіна, Шылера, Гюго, Мілаша, Шымборскую... Бо гэта — «для душы»! А «для корму» — базар! Не рыфма ж корміць, ямб ці харэй для паэта «пры місцы»!.. Такі, вось, брацішку, гэткі — сястрычка — у нас польскі капіталізм людзей «ушчаслівўляе»!..

* * *

Во, вы бачыце? Яшчэ адно «цуда» з Парнасу завітала да нас!.. Ён — пры «Хлябах» стаіць, цукерачак чорненькі, той высокі! Ну, проста, з малюнкаў музейных зышоў сюды!.. Наш ён, бачна, тутэйшы, гарадскі, наш панічок ад лодзінскага моднага Дзіор, хоць на ім бялюсенькі фартух!.. Па-польску ж гаворыць, бабаў «у вар'яцтва» заганяе-палоніць; яны пруць толькі да яго, хоць хлябоў тут і ў іншых месцах дзясяткі; яны толькі да яго!..

Чуеце, што ён «гародзіць» Іаланце, якая загаварыла з паняй Віолай? (пані Віялета з яе дому):

— „Dziewczyno piękna a nadobna, posłuchaj mnie, co ci rzeknę do uszka, zapytam: „Czego potrzebujesz, duszyczko, żeby się dostać do nieba?.. — Nic mnie, nic mnie nie potrzeba! Niechaj podbiegną młodzieńce, niechaj mnie pochwycą za ręce, niechaj przyciągną do ziemi, niech poigram chwilkę z niemi. Posłuchajcie i zważcie u siebie, że według Bożego rozkazu: Kto nie dotknął ziemi ni razu, ten nigdy nie może być w niebie"?..

— Jak się nazywasz, młodzieńcze, piękny i młody?..

— Jerzy, Jurek, zacna białogłowo!..

— Jerzy? Ten święty od smoka ze stron dalekich?

— Tak, pani, spod Bejrutu, ten co na białym koniu, z dalekiego czwartego wieku, Jerzy Zwycięzca, — зарапартаваў хлопец задзірыста, гэткі шыракаплечы двухметравік.

— Няйнакш, і ён тут ад грэчаскіх гігантаў!.. — падумала дзяўчына. — Што калісь ваявалі ў сябе з багамі і скрыліся перад імі на поўначы Еўропы, ажно да нашых часоў і ў нас, відаць, захаваліся!.. У Польшчы!..

— Глянеш на такіх — і анямееш!.. А што іншае можа быць з табою?.. Шасцідзённае тварэнне Гасподзь Бог даў зямлі, явіў усё добрае, прыгожае!..

— «И рече Бог: сотворим человека по образу Нашему и по подобию... И сотвори Бог человека, по образу Божию сотвори его: мужа и жену сотвори их»... Па Сабе Гасподзь тварыць, адсюль і Прыгажосць у свеце!.. Чуеце, людзі?!. «Тварыць — твар — ліцо» гучыць аднолькава! А ліцо та — твар — толькі ў чалавека!!! Вось, які ён, чалавек! — веліч і краса якая Божа, Гасподня!!! Яна і да нашых часоў дайшла!.. Углядзімся толькі добра, шырока вочы адкрыйма!.. Людзі!!!

* * *

Вось, і ў нас, прыйдзем крок-два — ці больш — а гігант-прыгажунчык «Іліяду» табе ці «Адысею» раскажа, паведае, або арыгінальным Сафоклам ці Еўрыпідам цябе аглушыць!.. Паслухаеш — задзівіўся — галавой пакруціш (значыць — НЕ найгоршай была нядаўняя сістэма навукі!) — ім бы рэфераты-лекцыі ў школах-універсітэтах-клубах пра г-э-т-а чытаць! Ды толькі — хто сёння на гэта грошы мае, чалавеча, хто іх выкладзе? Гэтак, вось-так-так! І табе дух забіла!.. Вочы зацьміла, і ты — таксама! — пабачыла-пачула, што прад табой стаяць 33 пушкінскія багатыры-героі! І ты жывымі ж уявіла сабе грэкаў з-пад Трої: Патрокла, Ахілеса, Антылёха, Язона — таго, яго! — залатаруншычыка-арганаўта з Калхіды, што ў цяперашняй Грузіі!..

Што яны цяпер на базарах?!.

А так было заўсёды ў гісторыі даўняй, калі людзі ад сябе красу выганялі! Месца для багацця рабілі!.. Адвыклі мы, а тэатры ж, яшчэ з нядаўніх гадоў, «валачыліся» вагабундай па свеце, выступаючы на гарадскіх плошчах, рынках, базарах!..

Няўжо-ўжо! — не ў памяць вам слава нядаўніх часоў феллінаўскі фільм «Дарога» (La Strada), дзе майстры экрана — Квін і Мазіна — самародныя, па-кіно, — цыркачы-акцёры на рынках рвалі ланцугі, гісторыі пра каханне-мілаванне, трывогу людскую паказвалі!..

А французскую аповесць Віктара Гюго «Без сям'і» няўжо і вы з-а-б-ы-л-і, не даючы дзецям сваім яе прачытаць (бо цяпер модныя Потэры і звёздныя войны?); трагічную (хоць у канцы — шчаслівую) аповесць пра хлопчыка Рэмі, старога пачціўца акцёра Віталіса, ягоны тэатр-звярынец: абяз'янку-малпішонку Душку, сабачак Капі, Дольча і Зербіна, іх спектаклі па ўсёй Францыі, іх холад, іх голад, іх малыя радасці?!.

А і ў нас, цяпер, базары сталі «вучонымі кафедрамі» для моладзі, дзе юны «свет навукі» прадае тут свае тавары штодзённай патрэбы!..

Не дзівуйцеся, пачуўшы і тут розныя мовы... Міжнародны тут «научны» цэнтр «абразаваўся». Чуеце, Мішка з-пад рускага Арзамаса — што за Масквой далёка — ужо пачынае: «Эх, полна, полна коробушка, есть и ситец, и парча, пожалей, душа-зазнобушка молодецкого плеча. Цены сам платил немалые, не торгуйся, не скупись, подставляй-ка губки алые, ближе к молодцу садись!»

Усё, як бачна, у свеце вяртаецца «на кругі своя», даўнія часы да нас стукаюцца, свае прыклады нам яўляюць — на выбар даюць, прадстаўляюць: што, чалачеча, выбярэш?.. Што цяпер цэніш?!.

* * *

Бо калісьці, у часы прошлыя-запрошлыя чалавек быў адзінай кнігай, як вучыў нас — у нашы ліцэйскія гады — наш настаўнік «усяго грэчаскага», прафесар Ян Парандоўскі!

З твару чалавека можна было прачытаць тугу, смутак, злую і добрую волю-жаданне, фальш і двудушнасць свету, сакрэтныя намеры эладскіх алімпійскіх багоў, красу чалавечага жыцця... Людскія спевы, вершы, паэмы цэлыя пераносілі-перадавалі-перасылалі паэтычную навіну з непамернай скорасцю-спешкай-быстратой!

Паэты складалі вершы пра ўчарашне-сённяшнія здарэнні, не чакаючы, калі яны састарацца, спарахнеюць, здрахлеюць, «моцы-солі» набяруць! Сёння, ужо цяпер!, у гэты час!, у гэтую хвіліну!, ідзі песня-паэма ў свет! Чалавек — да чалавека — сказаў — стварыў — заспяваў — перадаў»!; ты чуеш, сябра?, перадай далей!, хай усе ведаюць-знаюць навіну! Гэта тады быў такі сённяшні інтэрнэт, так нам гэта бачыцца, ды толькі гэта было жывым, чалавечым, НЕ машынай!, без душы!, я табе — з вуснаў у вусны!, з вачэй у вочы!, з сэрца ў сэрца!.. БО ўсе навокал кахалі, разумелі паэзію!.. І паэтаў! Жывых! НЕ МАШЫНЫ!.. Бо ж чалавек ці ланцуг-трыбік-жалязяка?!.

Ну і што, што і тады і цяпер нават НЕ ВЕДАЕМ, калі-дзе ў якіх абставінах жыў Гамер?!. ... Што ўсюды тая таемнасць?!. ШТО аж сем гарадоў, ужо тады — у гамераўскі час (як яго бліжэй акрэсліць, з датай даўняй, годам, месяцам?) сварыліся паміж сабою і сцвярджалі: НЕ, гэта Ў НАС, толькі Ў НАС — нарадзіўся Гамер, у нас. Чуеце — глухандзеі вы!... Смырна — Родас — Каляфон — Саламіна — Хіос — Аргос — Афіны!!! І ўсе, як малітву зналі-ведалі-галасілі-цвярдзілі-радаваліся — гэта пра НАС!, ды і толькі, што вы там прымазваецеся?! — каня куюць, а жаба нагу падстаўляе»!, сумленне ж мець трэба дый устыд!..

«Паздраўляю вас усіх. А пра мяне помніце: калі прыйдзе які чужастранец, што свету пабачыў, і спытае: „О, дзяўчаты, каторы вам наймілейшы з аойдаў-песняроў, дэкламатараў надворных ці вандроўных паэтаў — якія сюды прыходзяць?.." Тады вы ўсе разам адкажыце: — Сляпец, які жыве на скалістым Хіосе, яго песні заўтра будуць найпрыгажэйшымі ва ўсёй Эладзе!»...

Не-не, вы ж чуеце, кожны хітрун назву сваёй местнасці, замест «на скалістым Хіосе» ўслаўляе!.. Той кажа Хіос, той Саламіна-Апгос ці Афіны! А які пачатак, якая праўда?!. Бо што за труд тут такі — узяў сваё ўставіў! Якая тут мана?!. Якая выдумка? А ў нас тут усюды скалы! Нуй не хваліся сваімі! Падумаеш, метр вышыні — а нос задзіраеш! Нашы во — дзясяткі — сотні метраў!.. У нас гэта ўсё было! На чужое рот чаго разяўляеш — пры цяпле славы пагрэцца?! — Нашай славы!!! А вы сябе ўстаўляеце, маніце — безустыднікі!..

Ну, чаго тут рукамі махаць? Сварыцца, да сябе цягнуць?.. Слава-хвала-перамога мае бацькоў многа!.. Во, вы пачулі? Нават тут паэзія-рыфма з'явілася! Ну — рыфма — не рыфма — верш не верш, нешта такое «каля»!.. Нешта — уродзі — дзядзі Валодзі! (гэта ўжо нашы часы і імёны!)... А хто гэта — дзядзя Валодзя?.. Ну, быў недзе-калісь такі!. Будзеце ўсё, дакладна ведаць — хутка, ураз, састарыцеся!.. А вам — табе — гэткае патрэбна?!. „Młodym być i więcej nic!"... Чаму ўсё бягом ды бягом?!. І толькі сабе?!.

* * *

У пятым стагоддзі, ужо нашых часоў, філосаф Проклас, афінскі, пасміхаўся з усяго свету: «Прадстаўляй Гамера сляпцом — дурасць!!! Ён бачыў болей, чымсьці які іншы з вачыма чалавек»!..

Бо — праўдачкі — людзі, чалавекі, жылі так праз вякі? Давайце жыць гэтак і цяпер, гэтак далей! Цяпер і потым! Можна дзесьці, калісь, хтось і аб'явіць нам нешта новае і ў гэтай справе? Бо ўсё выходзіць, калі ўмееш чакаць! А сёння — вам — не ўсёроўна?! Вы самі шукалі, ці толькі чакалі? Ну, ад гэтага нічога і не паўстае, не родзіцца! Хочаш картофлю восенню выкапаць — ты вясной яе і пасадзі!!!

Чаму забываеш, людзіна, што: „Ludzie są jak liście, które wiatr jesienny strąca i po ziemi rozmiata, a wiosna nowe przynosi..." Гэта ад каго? Даследаваць хочаш?. Ад Гамера? Міцкевіча? Пушкіна? Бадлера? Гётэ? Уітмана? Шэкспіра??? Ты мусіш гэта ведаць, чалавеча? Без гэтага не заснеш? А што будзе, калі яно НЕ з твайго краю, а падабаецца? Адкінеш? НЕ прымеш? Красу? Праўду? Бо НЕ твая, а чужая — і перастае — перастала таму быць красою-цудам? А сам ты — з прыгожых? Красавец? Мілашка? Целам і душой? Душой — галоўнае? Сэрцам — які ты? Каб ставіцца? І нос насіць вышэй самога сябе? У чым ты вышэй, як ты паказваешся-яўляешся? Ты першы за ўсіх? Не спяшай гэтак, «даедзеш» да «ібермэнша»; былі ўжо такія на свеце, што на «гэткім» возе-танках сваіх ехалі, а потым, у сваім логаве і кончылі філасофію сваю няслаўную! Не пробуй такое ўваскрашаць!..

Табе такое — да смерці ведаць трэба? Умрэш, бо ўсяго не знаеш, не ведаеш? Умрэш? Умрэш — а як жа, але НЕ ад гэтага! Бо ты — смертны, як і ўсе мы тут побач з табою! Апостал Іакаў навучае: «Грех же содеян рождает смерть», але вы «всяку радость имейте, братие моя, егда во искушения впадаете различна: ведаще, яко искушение вашея веры соделовает терпение»...

*(працяг будзе)*

# Няроўнае змаганне з караедам

Белавежская пушча памірае — лямантуюць леснікі. Усё з-за караеда, які пляжыць дрэвы. А гэта пагражае ўсёй экасістэме. У Польшчы больш за 9 мільёнаў гектараў лясоў. Аж мільён з іх пагражае яловы караед-тыпограф.

Пакінутыя памерлыя дрэвы ўяўляюць смяротную пагрозу. Прыклад: разбуранае, высушанае дрэва ўпала прама на маладога зубра ў лясніцтве Пасекі. Леснікам удалося выцягнуць яго. Аднак зубраняці выратаваць не ўдалося. У яго былі разбітыя рэбры, паламаная лапатка, а таксама спіна. Іншы прыклад: ваяводская дарога № 689, якая ідзе ад Бельска-Падляшскага ў бок пешаходна-веласіпеднага памежнага пераходу Белавежа — Перароў. Зваленае побач мёртвае дрэва перашкаджае жывёлам свабодна пераходзіць дарогу.

— Я бачыў як сарны, перабягаючы дарогу, сустрэлі кучу дрэў і, баючыся, вярнуліся на дарогу непасрэдна перад машыны, — распавядаў надляснічы з Гайнаўкі Марыюш Агейчык. — Па даных пажарнай службы ў Гайнаўцы на гэтай дарозе за чатыры гады было выдалена 49 дрэў і апаўшых галін. Яны выклікалі 13 дарожных выпадкаў, — разводзіць рукамі Агейчык. — З аднаго боку, нам трэба гарантаваць бяспеку людзям, з іншага, на нас увялі абмежаванні, пазбавіўшы нас магчымасці ліквідацыі пагроз. Таму мы пакрылі частку лесу часовай забаронай на ўезд. У асноўным там, дзе пашкоджанні караедаў выклікаюць вялікую пагрозу, і там, дзе мы не можам высекчы небяспечных дрэў. Мы хацелі б нармальна кіраваць, выконваючы патрабаванні ЮНЕСКА, здымаць пагрозы ў Белавежскай пушчы, але ў цяперашняй сітуацыі ў нас рукі звязаныя.

Караед **любіць цяплынь.** Экспансіўныя пароды дрэў таксама з'яўляюцца на фрагментах мёртвага лесу. Сюды ўваходзіць граб, які не дазваляе натуральнай рэгенерацыі такіх відаў, як дуб, ліпа ці клён.

— Мы хочам выратаваць сітуацыю шляхам стварэння паўпрыродных абнаўленняў, але гэта таксама падвяргаецца крытыцы і выклікае супярэчлівасці, — кажа Агейчык.

Караеду спрыяе засуха і пацяпленне клімату. Недахоп вады аслабляе дрэвы, і гэта выклікае яшчэ большае нашэсце гэтага жука. Можна ўбачыць яго прысутнасць вакол Белавежжа. На думку леснікоў, маштаб праблемы павялічыўся менавіта блакіраваннем санітарных высечак у лесе.

Броўскае надлясніцтва, лясы якога прымыкаюць да прыватных лясоў, атрымлівае заявы ад уладальнікаў гэтых лясоў аб дазволе на высечку мёртвых дрэў.

— Звычайна запыты тычацца дрэў узросту ў некалькі дзесяцігоддзяў. Ва ўсіх выпадках, пра якія паведамлялася дагэтуль, мы выявілі караеда, — кажа надляснічы Роберт Мішчак і дадае: — Уладальнікі атрымліваюць дазвол на высечку мёртвых дрэў, і мы кантралюем гэтую працу ў рамках пагаднення са старостам. Часам узнікаюць патрабаванні аб кампенсацыі, але мы не той бок, да якога яны павінны быць накіраваны.

Барацьба з караедам таксама працягваецца ў надлясніцтве Бельск-Падляшскі, прылеглым да пушчы. Сёлета было высечана некалькі тысяч нападзеных дрэў. Прыватныя лясы таксама пакутуюць ад караеда. Уладальнікі часта не заўважаюць заселеных караедам елак. Яны рэагуюць толькі тады, калі пачынаюць яны засыхаць, і тады ўжо позна, бо караед перайшоў на іншыя дрэвы.

Па словах прафесара Яцка Гільшчаньскага з Інстытута даследаванняў лясоў, для развіцця караедаў не трэба шмат, каб насякомыя масава знішчалі дрэвы, нават здаровыя і квітнеючыя. Здаровая елка абараняецца, заліваючы ўгрызаючагася ў драўніну жука жывіцай.

— Калі на здаровую елку нападзе некалькі жукоў, яна здольная выйграць гэты бой. Горш, калі іх будуць тысячы. Гэта як агрэсіўны сабака. Калі нападзе на нас адзін, мы можам яго прагнаць. Калі гэта цэлая зграя, не дамо сабе рады, — мяркуе прафесар. На думку навукоўца, адзіным эфектыўным метадам барацьбы з яловым караедам з'яўляецца санітарная высечка і выдаленне заселеных жуком дрэў.



Фота Адама Паўлоўскага

Леснікі ў Белавежскай пушчы высветлілі, наколькі сур'ёзная пагроза ад караеда. У самім лесе мёртвых дрэў каля 7 млн. фасметраў, у тым ліку толькі 2,5 млн. фасметраў елак.

Міхал Жмігорскі: «Нагадваю, што мы вывозілі дрэвы, каб караед не забіваў іншых! Садзім дрэвы, вырашчаныя з найлепшага насення з Белавежскай пушчы (у нас ёсць выдатныя насенныя насаджэнні, матачныя дрэвы і г.д.). Мы не садзім дрэў «на дошкі», але арыентуемся на стварэнне прыгожай і здаровай (устойлівай да змены клімату) лясной экасістэмы ў кампаніі, блізкай да прыроднай у будучыні».

Прафесар **Багдан Ярашэвіч,** ляснік і эколаг: «Мусім адзначыць ключавыя моманты. Першая з іх — і вось пра што ўся дыскусія — гэта вызначэнне Пушчы. У нас ёсць два супрацьлеглыя бачанні лесу. Першае, бачанне леснікоў, — гэта пушча як драўляная сыравіна. Гэты лес таксама мае відавы склад, які здаецца прыдатным для леснікоў. Другое бачанне — гэта бачанне лесу як экасістэмы, дзе важна ўся біяразнастайнасць, а склад відаў вызначаецца не фантазіяй людзей, а тым, якія ўмовы ў навакольным асяроддзі пераважаюць у дадзены момант. І гэтыя два бачанні ніякім чынам не могуць узгадніць стратэгію барацьбы з караедам. Чаму? Для леснікоў караед — шкоднік. Тэрмін «шкоднік» — тыповая антрапацэнтрычная канструкцыя. Шкоднік шкодзіць нашаму дабрабыту, нападаючы на тое, што мае матэрыяльную каштоўнасць. Ці будзе гэта культура ворная, ці лясная. Ляснік — гэта прафесія, бліжэйшая да селяніна, чым да натураліста. Для натураліста атака караеда — гэта **звычайная сітуацыя** ў лесе. Больш за тое, караед — тут ключавы від, яго суіснаванне з елкай выклікае тое, што лес змешаны і не пераважае адзін від.

Гэты тып разважанняў для большасці леснікоў чужы — для іх пагроза для елак роўная пагрозе для Пушчы, бо пушча — елкі. Адсюль паніка і страх, што караед знішчыць лес, калі мы нічога з гэтым не зробім. Гэта неабгрунтаванае запалохванне. На працягу многіх тысяч гадоў пушчу пераследуюць караеды, і пушча стаіць так, як стаяла. Елка не з'яўляецца знікаючым відам і выжыла. За градацыяй ідзе рэгенерацыя, а ўчасткі, дзе пераважалі елкі, абляцяюцца больш разнастайным дрэвастоем.

Ці памірае Пушча з-за цяперашняй градацыі? Не. Дзякуючы градацыям, Белавежская пушча мае менш елак у ахоўнай частцы, чым у гаспадарчай частцы — там, дзе прыродныя працэсы ўплываюць на склад лесу, елка не з'яўляецца дамінуючым відам, і да гэтага прыводзіць градацыя. Толькі калі леснікі займаюцца лесам, елка становіцца каралевай лесу. Чаму? У эканамічным плане елка — гэта выдатнае дрэва. Яна хутка расце і дае шмат якаснай драўніны.

Так, велізарныя плошчы елкі ўпадуць, але менавіта елкі не ствараюць Пушчы! — тут д-р Ярашэвіч паказвае спадарожнікавыя здымкі апошняй градацыі 2005 года і рэгенерацыі ў эканамічных зонах Польшчы і ў ахоўных зонах Беларусі. — У абедзвюх частках лес адрадзіўся без праблем, але пакуль у беларускай частцы можна ўбачыць мазаіку розных відаў, у Польшчы можна ўбачыць прыгожыя квадраты яловай монакультуры.

— Белавежская пушча — унікальная экасістэма з тысячамі відаў, якая стварае складанай сеткай сувязей паміж гэтымі відамі лес. Наша бачанне Белавежскай пушчы — гэта тое, што ўяўляюць натуралісты. Натуральны лес, які падвяргаецца мінімальнаму ўмяшанню чалавека, — скарб у Еўропе. Пагладзіце толькі на даныя — на невялікай тэрыторыі ахоўных прыродных тэрыторый у БП знаходзіцца каля 50% біяразнастайнасці грыбоў у Польшчы. Натуральны лес мае зусім іншыя ўласцівасці, чым лес, якім карыстаюцца людзі, — доктар Ярашэвіч прыводзіць прыклады пасялення дзятла ў Нацыянальным парку (100% месцапражыванняў з папуляцыяй дзятла) і гаспадарчых лясоў (19% наяўных месцаў пражывання дзятлаў). — Караед суіснаваў з елкамі, ліпы з грабамі, дуб з зубрамі. Толькі з'яўленне чалавека парушыла гэтую дынаміку. Да такой ступені, што з першабытнага лесу, які парастаў усю краіну, застаўся кавалак. Натуральнай тэндэнцыяй XXI стагоддзя, калі мы ўсведамляем важнасць біяразнастайнасці, павінна стаць пашырэнне ахоўнай тэрыторыі, а не ўзмацненне ўмяшання.

На Куявах сёлета напаў на іглічныя дрэвы наступны караед — вастразубы. Ён атакуе не яліну, а сасну. Леснікі лічаць, што адзіны на яго спосаб — піла і вываз заатакаваных дрэў па-за лес. Лесаводы назіраюць за развіццём месцаў жыравання гэтага шкодніка з поўдня на поўнач ваяводства. Дзяржаўныя лясы ўжо пачалі бойку, і яны звяртаюцца да ўладальнікаў недзяржаўных лясоў праз старостава.

— Я прашу ўладальнікаў недзяржаўных лясоў захаваць неабходную прафілактыку, — просіць тухольскі староста. — Для барацьбы з вастразубым караедам неабходна пастаянна выдаляць з небяспечнай зоны (не менш за 3 км ад лясной мяжы) заселеныя дрэвы і чысціць паверхню верхавін, кары і галін зрэзаных дрэў...

З размовы пісьменніка і эколага Міхала Ксёнжка з праф. Ежы М. Гутоўскім. *Ці пры масавым з'яўленні караеда ў пушчы можна змагацца з „градацыяй", выразаючы нападзеныя елкі?* Праф. Е. М. Гутоўскі: «Гэта зусім немагчыма. Незалежна ад таго, што кажуць леснікі і як яны зачароўваюць рэальнасць. Сляцённе метэаралагічных умоў было такое, што яна павінна была прыйсці. І ў свеце няма ніякіх доказаў таго, што можна змагацца з ёю **вырубкай**. У Пушчы гэта немагчыма». *Як гэта? Знаёмы ляснік кажа, што ён сплажыў караеда, высякаючы дрэвы з пілавіннем ад караедаў.* «Калі ў лесе няма запаведнікаў і старых елак, я магу гэта ўявіць. Аднак у Белавежскай пушчы высякаць усе спілавінелыя елкі немагчыма, бо ў нас ёсць яны на тысячах гектараў, а ў Белавежскім нацыянальным парку іх нельга высякаць. І адтуль жук мігрыруе ў гаспадарчыя лясы. Таксама са сваёй беларускай часткі, дзе дрэвы спілавінелыя не вывозяцца на тысячах гектараў. Акрамя таго, усіх іх не знойдзеш таксама ў гаспадарчых лясах».

І гэтыя дыскусіі выглядаюць як размова глухога са сляпым, якіх хоча весці кульгавы. Тым больш што некаторыя тлумачаць іх кепскай ці падазронай воляй другога боку. Так як праф. Гутоўскі: «Адзіны аргумент для рэзкі — гэта выкарыстанне сыравіны ў пэўнай ступені, напрыклад, для патрэб мясцовай супольнасці. Другі аргумент — гэта працоўныя месцы. Але тут беспрацоўя няма, бо цяжка знайсці супрацоўнікаў. Аднак самым недарэчным аргументам з'яўляецца тое, што высечка служыць для абароны прыроды (*смех*). А вось гэта і знішчае прыроду!»

Міра ЛУКША

# Мая дарога

У кожнага з нас свой шлях. Дарога жыцця? Ці толькі маршрут на карце (gps)? Ці толькі звычайная сцежка праз лес ці палі? Ці вуліцы ў вялікім горадзе? Гэта грунтавая ці асфальтаваная дарога? Ёсць таксама масты, якія дазваляюць пайсці ў далейшы маршрут. Мы падарожнічаем па іх часта ці рэдка. Можа, толькі некалькі разоў у жыцці. Ёсць розныя шляхі. Дарога на працу, у школу. Дарогі да сталасці — цяпер канец, ідуць экзамены, канец школы і выпускныя экзамены. Памятаеце такую песню Ёнаша Кофты «Твой час» у выдатным выкананні Кшыштафа Кленчана?

*Nikt nam nie powie: żegnaj!*
*Mówią nam: do widzenia!*
*Przed nami droga niejedna,*
*droga ludzkiego istnienia.*
*Jesteś siostrą i bratem,*
*jesteś jednym z nas,*
*szukaj zgody ze światem,*
*ruszaj, przyszedł twój czas!*
*Ref.:*
*Daleka droga, przyjacielu,*
*daleka droga.*
*Rusza nas wielu*
*ku swoim celom*
*na własnych nogach.*
*Wszystkiego nas nie uczy*
*starszych przestroga,*
*będziemy błądzić,*
*będziemy kluczyć,*
*daleka droga.*
*Daleka droga cię onieśmiela*
*jak innych wielu,*
*lecz stanąć w miejscu,*
*to zostać z tyłu,*
*tak, przyjacielu.*

Дарога вядзе нас куды-небудзь. Але таксама аддзяляе ад таго, што знаходзіцца наперадзе і ад таго, што ззаду. З левага і правага боку. А ў сярэдзіне гэтага — падарожнік. Мы! Ніхто нам не скажа «бывай»! Скажуць нам «Да пабачэння! Пакуль! Гэй! Cześć!».

У мяне шмат такіх дарог. Як і ўва ўсіх нас. У рэшце рэшт кожны шукае згоды з усім светам. Але адна з іх нейкім чынам асаблівая і блізкая. Яна дазваляе мне вярнуцца ў мой родны дом. Дазваляе мне вярнуцца на ўласных нагах. Яна таксама дазволіла мне адправіцца на аўтобусе ПКС з Гарадка, каб «мыліцца і блукаць», калі «прыйдзе мой час».

Гэта краёвая дарога № 65 (даўжыня 224, маршрут: дзяржаўная мяжа (Расія) — Голдап — Алецка — Элк — Граева — Монькі — Беласток — Бaброўнікі — дзяржаўная мяжа (Беларусь). І мой участак гэтай дарогі: Беласток — Бaброўнікі. За год праязджаю яе амаль дваццаць разоў. Калісьці гэта была дарога з гранітнай косткі, зараз гэта асфальтоўка. Я езджу туды ў розны час года. Вясной у гэтай каранцініннай сітуацыі я яшчэ не ездзіў па гэтым шляху. Апошні раз быў у праваслаўнае Раство. Каля дваццаці разоў — гэта ні шмат, ні мала. У самы раз? Не ведаю яшчэ.

Анджэй Стасюк з дарогі № 993 Жмігруд — Горліцы.

«Няма вялікай розніцы паміж яздой па азіяцкім ці польскім ландшафце. Розніца паміж адным і другім невялікая, бо прыгажосць адна. Калі мы падарожнічаем па гэтай краіне, праз гэты свет... Вось як з падарожжамі, месца абыякавае, сапраўды... Месца, пара абыякавыя. Свята свету заўсёды здольнае асляпляць нас сваёй эстэтычнай прыгажосцю... Тое, што мы атрымалі для назірання, трэба выкарыстоўваць, бо праз імгненне гэтага не будзе. Таму што геаграфічная рэчаіснасць абыякавая. Важная матэрыя свету. Важнае свята, важныя формы. І не важна, адкуль яны бяруцца».

Гэта дае падарожжа, што можаш бачыць і расказваць самому сабе пра гэтае падарожжа, пра гэтае месца. Таму што нельга расказваць пра месца старту без месца мэты. Трэба выехаць на дарогу, каб убачыць гэта. Адчуць. Адчуць, што даў нам свет для ўбачання. Што было створана для нас тут, на Падляшшы. Вясна, Май — гэта добрае спалучэнне. Вельмі добра вярнуцца дадому, да памяці пра сваіх блізкіх. Праз гэты краявід едзеш інача, чым праз усе астатнія. Гэта не толькі дарога, Кнышынская пушча, лугі, палі. Гэта не толькі свята гэтага месца, дадзенае нам для назірання. Гэта Твая дарога, Твой лес, лугі і палі. Тваё месца для жыцця. Іншыя ўжо не будуць такімі. Яны не будуць Тваімі. Нават ноччу можаш адчуць пах гэтага свята. Усё бачыш. Вось так пахне Твая краіна. У канцы вялікага свету, з правага боку карты, на ўсходзе. Па дарозе № 65.

Я прашу кожнага знаёмага, хто едзе туды, калі ласка, пакланіся ад майго імя Маці Падляшскай Зямлі. Прашу прывітаць гэту зямлю. Я не ведаю, чаму раблю гэта. Можа, гэтая зямля ведае? Калі буду там наступным разам, я спытаюся ў яе.

Дарога да роднага дома, нават без дзённага святла, аслепіць нас сваім зязннем першаснай прыгажосці.

Ужо ў Каралёвым Мосце вяртаецца ўсё — Я БЫЎ ТУТ! Я БЫЛА ТУТ. На Станцыі Валілы паварочваю направа, потым праз закрытыя пуці. Мінаю будынкі надлясніцтва Валілы. І тады ўжо ведаю, што не заблуджу і не буду пятляць. Я сястра і брат! Я адзін з вас!

**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**




## http://krynica.info

Рэлігійнае жыццё ў Беларусі, якая за савецкім часам заставалася найбольш атэістычнай рэспублікай, ужо больш за трыццаць гадоў як адрадзілася. Праўда, адрадзілася яно зусім не такім, якім было да таго часу, калі ўладу ў свае рукі ўзялі бальшавікі. Даўно ўжо няма мноства культавых храмаў, якія прывабілі архітэктурнай прыгажосцю позіркі мінакоў, а да рэлігіі ў большасці нават тых, хто называе сябе вернікам, стаўленне часцяком утылітарна-абрадавае. Галоўнае — пахрысціць дзіця, магчыма, павянчацца, ну і адпець нябожчыка. Іншым разам можна зайсці ў царкву, каб паставіць свечку. Да споведзі і сапраўды хрысціянскага жыцця асаблівай цягі няма. Такія акалічнасці і абумоўліваюць з'яўленне так званых „праваслаўных атэістаў", як аднойчы назваў сябе цяперашні нязменны беларускі правіцель.

Праўда, аднойчы адрадзіўшыся рэлігійнае жыццё падштурхнула тых, каму яно неабыякава, да яго вывучэння і асэнсавання. Так пачалі з'яўляцца сайты каляpэлігійнай накіраванасці, дзе можна знайсці не толькі навіны, датычныя разнастайных канфесій, але і цікавыя артыкулы. Адным з такіх парталаў можна лічыць Крыніца.INFO, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://krynica.info**.

Стваральнікі і ідэйныя натхняльнікі сайта персанальна сябе чамусьці ніяк не абазначылі. Толькі на старонцы „Інфармацыя пра супольнасць", выйсце на якую яшчэ трэба добра пашукаць, каб знайсці ў правым ніжнім вугле цэлага выяўлення, распавядаецца пра іх. «Грамадская ініцыятыва „Супольнасць хрысціянскіх журналістаў і блогераў" была заснаваная 25 лютага 2014 года на сходзе ў Мінску. Яна аб'ядноўвае прафесійных журналістаў, журналістаў-аматараў, адміністратараў парафіяльных сайтаў і блогераў, якія супрацоўнічаюць як са свецкімі, так і з рэлігійных СМІ розных хрысціянскіх канфесій Беларусі. У сакавіку-чэрвені 2014 года быў праведзены конкурс журналісцкіх матэрыялаў „Жыццё пад сэрцам", пераможцы якіх атрымалі каштоўныя прызы ад арганізатараў. Конкурс плануецца быць штогадовым. У сакавіку 2014 года быў запушчаны блог супольнасці, а 26 траўня — сайт Крыніца.INFO. 6 жніўня сайт пераўтвораны ў партал», — адзначаецца там, з чаго вынікае, што сайту ўжо больш за шэсць гадоў. За гэты час яго ўладальнікі чамусьці не пажадалі напоўніць адпаведным зместам старонку „Рэдакцыя". Там немагчыма ўбачыць ніякіх прозвішчаў ці імёнаў — даецца толькі электронны адрас і адрасы Крыніцы.INFO ў Facebook і VK.

Больш менш змястоўная інфармацыя, якая раскрывае сутнасць партала, месціцца ў рубрыцы „Кантакт", выйсце на якую таксама знаходзіцца ў правым ніжнім вугле выяўлення. „Хрысціянскі партал «КРЫНІЦА.INFO» падае дакладную інфармацыю аб жыцці ўсіх хрысціянскіх канфесій Беларусі, пра ўзаемаадносіны царквы і грамадства, аб грамадзянскай пазіцыі вернікаў, аб дабрачыннасці і сацыяльнай адказнасці. Мы аналізуем, каментуем, дыскутуем, але не кранаем дактрынальныя адрозненні, а закранаем тое, што сапраўды аб'ядноўвае вернікаў усіх канфесій — любоў да Бога, любоў да роднай краіны, неабыякавасць да цяперашняга грамадства і да нашай агульнай будучыні", — гаворыцца там. Пры гэтым уладальнікі партала адзначаюць, што ён — унікальны прыклад супрацоўніцтва праваслаўных, каталікоў і пратэстантаў, людзей розных рэлігійных і палітычных поглядаў.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

## 125 гадоў з дня нараджэння
## Леапольда Родзевіча

Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, драматург, публіцыст, паэт Леапольд Родзевіч нарадзіўся 12 чэрвеня 1895 г. у фальварку Кур'янаўшчына (Лагойскі раён, Мінская вобласць). Паходзіў са шляхецкага роду, які да пачатку XX ст. асяляніўся. У Леапольда былі тры сястры — Ядвіга, Яніна, Марыя, а таксама брат Часлаў, пазней вядомы беларускі грамадскі і тэатральны дзеяч.

Леапольд Родзевіч скончыў пачатковую школу ў мястэчку Крайск на Лагойшчыне. У 1909 г. скончыў гарадское вучылішча ў Вялейцы. Пад уплывам „Нашай нівы" пачаў пісаць па-беларуску. У 1914 г. пераехаў у Вільню, жыў там у сястры. Каля трох месяцаў працаваў на цукеркавай фабрыцы „Вікторыя", пасля — тэхнічным чарцёжнікам Сялянскага банка. Экстэрнам здаў іспыты на хіміка-тэхніка. У гэты час далучыўся да беларускага асветніцкага руху. Паводле ўспамінаў Паўліны Мядзёлкі, Родзевіча ў кампаніі з Максімам Гарэцкім і Змітраком Бядулем часта можна было бачыць у кавярні „Зялёны Штраль", якая была адным з месцаў сустрэч і размоў беларускай інтэлігенцыі.

Родзевіч удзельнічаў у Беларускім музычна-драматычным гуртку, разам з братам Чаславам і сястрой Ядвігай у складзе трупы Ігната Буйніцкага выступаў у тэатральных пастаноўках. Калі пачалася Першая сусветная вайна на фронт не быў мабілізаваны, паколькі раней перанёс аперацыю на страваводзе. Перад наступам нямецкіх войскаў у 1915 г. пакінуў Вільню. Паехаў у горад Георгіеўск на Паўночным Каўказе, дзе жыла сястра Яніна. Нейкі час працаваў у кандытарскім камбінаце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Расіі мабілізаваны ў расійскае войска, адкуль неўзабаве ўцёк і накіраваўся ў Мінск, які быў заняты нямецкімі войскамі.

З 1919 г. Родзевіч жыў у Мінску, выкладаў у мясцовай сямігодцы, працаваў пісарам у Беларускай ваеннай камісіі і чыноўнікам у беларускім міністэрстве сельскай гаспадаркі. У 1921 г. зноў вярнуўся ў Вільню. Рэдагаваў беларускія віленскія газеты: „Беларускія ведамасьці", „Беларускі звон", „Наша будучыня" (1922-1923). Заснаваў Беларускую драматычную майстэрню, спрыяў выданню твораў беларускіх пісьменнікаў — Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Дубоўкі. З 1921 г. — дзеяч Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Адзін з ініцыятараў уступлення ў 1923 г. БРА ў КПЗБ. Праследаваўся і арыштоўваўся ў 1923 г. У 1924 г. сакратар Гродзенскага падпольнага акружнога камітэта КПЗБ. З-за праследу ўлад восенню 1925 г. перабраўся ў Мінск. Кіраваў замежнай рэдакцыяй прадстаўніцтва ЦК КПЗБ, быў рэдактарам „Бюлетэня ІДК КПЗБ", у 1925-1934 гг. рэдактар газеты „Чырвоны сцяг" і часопіса „Бальшавік", працаваў у Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР.

Як літаратар Родзевіч друкаваўся з 1912 г. Ён аўтар п'ес „Пакрыўджаныя", „Блуднікі", „Збянтэжаны Саўка", „Пасланец", „Багаты і бедны", „Досьвіткі", „Кавалі", „Конскі партрэт", зборнікаў вершаў „Беларусь" (1922), „На паняволеных гонях" (1928), зборнікаў апавяданняў „Рэвалюцыйным шляхам" (1928), „Вогнішча барацьбы" (1930). Многія творы Леапольда Родзевіча, асабліва „Збянтэжаны Саўка", дагэтуль ставяцца тэатральнымі калектывамі Беларусі.

Леапольда Родзевіча арыштавалі ў ліпені 1933 г. па справе так званага „Беларускага нацыянальнага цэнтра". Высланы ў Саратаў, дзе працаваў у лясніцтве, жыў у сям'і старэйшага брата. Паўторна арыштаваны НКВД у 1938 г. Дакладныя дата і месца гібелі невядомыя.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# „Кожны сам сваю капае студню...”

Гэтыя мудрыя словы некалі агучыла ў адным са сваіх вершаў незабыўная і таленавітая Ніна Мацяш.

Кожны з нас — гаспадар свайго лёсу. Часам бывае, што дзяўчына, пакахаўшы, не слухае нічыіх парад. („Зайздросцяць, таму і адгаворваюць ад абраннікаў”, — нашэптвае ўнутраны голас). А чаму ж і не пазайздросціць — высокі, прыгожы, гаварлівы, усмешлівы і, канешне ж, майстар — залатыя рукі. А яшчэ — раўнівы. (Раўнуе, значыць, кахае). А далей — як у тым анекдоце:

1. Роза Маркаўна, а што такое каханне?

2. Ой, Софачка, усё проста: гэта калі закрываеш вочы на ўсе яго недахопы. Пасля адкрываеш, а ўжо двое дзетак.

Мая гісторыя наўрад можа стаць дапаможнікам па лёгкай і спакойнай пуцявіне жыцця. Затое яе не назавеш сумнай.

Было ўсяго... Але пачалося, як заўсёды бывае ў час першай сустрэчы, — „умяшаўся” мозг. Агульнавядома, што ён спраўна працуе 24 гадзіны ў суткі, 365 дзён на працягу года, ад самага дня нараджэння і да тае пары, пакуль не закахаешся. „Бывай, розум, сустрэнемся заўтра”, — як любіць гаварыць мая знаёмая.

Мужчыны ў сваё апраўданне за здрады сцвярджаюць, што да гэтага факту трэба ставіцца з пазіцыі сумлення: „Жаночая здрада менш лагічная. Мужчыне, каб быць верным, неабходна сябе стрымліваць. Жанчыне лагічней быць вернай”. Як вам, дарагія спадарынькі, такі вердыкт?

Упэўнена, што заўсёды неабходна верыць у так званую тэорыю дзвюх палавін. Калі людзі створаны адзін для другога, то ўсё ў іх атрымліваецца найлепшым чынам. А калі праз нейкі час зацішша пачынаюцца непаразуменні, то, хутчэй за ўсё, гэта не тваё. Трэба тэрмінова расстацца, каб зразумець, ці не камфортней вам будзе жыць паасобку. І калі вы не сумуеце без абранніка, не шукаеце сустрэчы, то і не працягвайце адносін з ім.

Мне спадабалася некалі пачутае ад гіда ў Фінляндыі паведамленне аб тым, што ў іх маладыя людзі, пакахаўшы адно аднаго, жывуць без шлюбу тры гады, не заводзячы дзяцей. Калі не расчараваліся за гэты час адно ў адным, — значыць, будзе вяселле і шчаслівая сям’я. Таму ў гэтай краіне малы адсотак разводаў і нешчаслівых сем’яў.

У нас жа часта сем’і ствараюцца па гэтак званаму „залёту”. (Непрыгожая, але атлетычнага складу дзяўчына Ліда хлопца з арміі не чакала, а паджыдала. „Ну, каханенькі-родненькі, асцерагайся-беражыся!”)

Ніхто ніколі не падлічваў паламаных дзявочых лёсаў праз хлапечую безадказнасць. Але, як у народзе кажуць, плачам рота не паправіць... І гадуюцца немаўляткі без бацькоўскай ласкі, без станоўчага прыкладу мужчыны ў доме. А можа, так лепш, чым быў бы побач выпівоха і лайдак. Хто ведае...

Пра сябе толькі і скажу: я ў шлюбе (страшна агучыць) 53 гады. І закончу зноў жа словамі Ніны Мацяш (светлая памяць!).

Што мінулася, не шкада,
Што мінулася, бласлаўляю.
Нават страты і нават боль
Светлай нотай маёй адзначу.
А над тым, што ніколі са мной
Не адбудзецца, — плачу, плачу.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

# Цяпер у вёсцы мала дрэў

За мінулыя 50 гадоў у вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета шмат што змянілася. Некаторыя жыхары пабудавалі новыя дамы і аборы ды ўжо не драўляныя, а мураваныя. Знікаюць драўляныя платы, брамкі і лавачкі. На панадворках і пры вуліцы няма калодзежаў з жураўлямі. Былі прыдамашнія агароды з агароднінай і садочкамі, у якіх раслі яблыні, грушы, вішні і слівы двух-трох відаў, а таксама кусцікі малін, чырвоных і чорных парэчак ды агрэсту. У кветкавых агародчыках цвілі ліловы або белы бэз, чаромха, язмін.

Нашы дзяды і бацькі каля хат і сельскагаспадарчых будынкаў садзілі перш-наперш ліставыя дрэвы: бярозы, ліпы, ясені, вязы, вербы, клёны ды радзей каштаны і рабіны. І раслі яны прыгожыя. У агародзе майго бацькі раслі высокія бярозы, ясень, вярба і ліпа. Пад імі на травяністым ды з мохам узмежку летам і восенню раслі краснюкі, бабкі, сыраежкі (іх найбольш), а нават баравікі. Колькі разоў мы яшчэ ў дзяцінстве сядзелі на тоўстых галінах вярбы і, як нам тады здавалася, было гэта высока-высока. Толькі ў двух выпадках пры стадолах на калёніі Новага Ляўкова да гэтай пары растуць шматгадовыя тоўстыя сосны-прыгажуні.




Цяпер у маёй вёсцы вельмі мала ліставых дрэў, а шкада. Няма высокіх прыгожых дрэў. Засталіся яны толькі ў маёй памяці. Ссеклі ліпы, вербы і здаровы прыгожы каштан. Не садзяць бяроз, ліп і клёнаў. А гэта ж такія прыгожыя дрэвы. Мне яны падабаюцца, асабліва восенню. Яны маюць такое каляровае залацістае лісце. А што садзяць? Дык вось — туі, а часам елачкі. Садзяць мала і гэтых дрэўцаў.

Рэдка хто пасадзіць пладаносную яблыньку, грушу, вішаньку або сліўку. Маем усяго тры прыдамашнія садочкі. У іх растуць устойлівыя на хваробы яблыні старых відаў — рэнета, антонаўка, каштэля, кронсэлька, аліўка і малінаўка. Зараз у іх усё менш ды менш сліў і вішань. Мы ў дзяцінстве ўрываліся ў чужыя садкі. Запамяталіся мне вялікія салодкія грушы ды слівы вянгеркі і рэнклоды.

Зараз дрэў у вёсцы намнога менш, чым было калісьці, усяго як на лякарства. Сякуць прысады кожны год. Сёлетняй вясною таксама ссеклі многа вербаў і тры бярозы. Дрэвы ў большай колькасці растуць пераважна пры дамах, у якіх цяпер ніхто не жыве. Без дрэў у сяле не свойска і сумна. Адзін з наваляўкоўцаў вялікі любіцель прыроды пасадзіў бярозавы лес на сваёй сядзібе на даволі вялікім участку зямлі. У цёплую пару года выходзіць з хаты і збірае грыбы. **(яц)**

# 14.06 — 20.06

**(22.03. — 20.04.)** Не паддавайся плёткам. Прасвятлі ўсе змовы і інтрыгі. Не пазычай, бо пасля будзе цяжка сплаціць. Памяркоўна лянуйся і частуйся высокакаларыйнымі смакоццямі. Твой высілак не пойдзе ўпустую. Удасца табе спалучыць прыемнае з карысным і максімальна выкарыстаць усе нагоды.

**(21.04. — 21.05.)** Твая сумленнасць і фаховасць ды адданне на працы будуць заўважаны. Непаразуменні разыдуцца «па касцях» і не будзеце памятаць, пра што былі спрэчкі. Калі шукаеш працу, успомні пра старое месца — можа там спатрэбішся. Добра зробіць табе плаванне або язда на ровары. Людзі будуць трактаваць цябе як правадыра і мацука.

**(22.05. — 22.06.)** 14-18.06. можаш расчаравацца ў кімсьці блізкім. Дзякуючы Сатурну справішся з усімі абавязкамі. Будуць табой захапляцца. Толькі не тэсціруй сваёй украсы на чыімсьці партнёры. 14-16.06. гэта будзе асабліва небяспечна. Дома крыху змен. На працы паляпшэнне фінансаў. Спартыўны дух.

**(23.06. — 23.07.)** Давярай людзям, якія хочуць твайго шчасця. З 17.06. аж да 23.06. будзеш мець безумоўную падтрымку атачэння. Пасля 19.06. можа чакаць цябе спаўненне ў істотных справах. 14-16.06. гарачая жарсць, якой не змогуць даць адпору асабліва Ракі з пералому II і III дэкады. 15-21.06. адвага і паслядоўнасць прынясуць табе працэнты. Пашыр свае кваліфікацыі; можаш мець шанц знайсці сваю жыццёвую дарогу. Да 17.06. удалы ход судовых і чыноўніцкіх спраў, кваліфікацыйных размоў. Слабаватыя яшчэ сілы і імунітэт.

**(24.07. — 23.08.)** З 19.06. хтосьці можа адмовіць табе ад дапамогі і лёгка аднясецца да твайго плану. Час на духовыя пошукі і ўнутраны развой. Многа будзе тварыцца ў хаце і ў кампаніі. 14-18.06. можа да нуля апусціцца твая матывацыя на рабоце. Засяродзься на сваёй асобе. 15-20.06. зважай на вірусы, зарана не кідай лякарстваў.

**(24.08. — 23.09.)** 14-18.06. часам не будзеш ведаць, што для цябе карыснае, а што не. 14-16.06. можаш зруйнаваць сваю пазіцыю праз каханне! Будзеш душой кампаніі. На працы шанцы на павышэнне. Будзь эластычны, не нагінай рэчаіснасці да сваіх патрэб ці ўяў. Моцна ступай па зямлі. Здароўе неблагое. Змяні прычоску, парфуму.

**(24.09. — 23.10.)** З 17.06. (да 23.06.) павышэнне, якое табе запрапануюць, будзе азначаць больш абавязкаў і большую адказнасць за мала большыя грошы — добра падумай. Зважай на прафесійныя вырашэнні. Варта правесці медабследаванні. Навучыся пячы хлеб!

**(24.10. — 22.11.)** Задбаеш аб свае інтарэсы і памножыш маёмасць. Самотныя Скарпіёны захочуць глыбокіх перажыванняў і моцных жарсцяў — будзе гэта 15-21.06., горача і рызыкоўна, асабліва калі закрунеш раман з кімсьці, хто несвабодны. Спакойна няхай спяць Скарпіёны, якія вучацца ці займаюцца навуковай дзейнасцю. 15-21.06. добры час пачаць трэнінгі ці рэабілітацыю. 17.06. (да 23.06.) зробіш агромны прагрэс і заслужыш на прызнанне. З 18.06. не будзеш найлепш сябе адчуваць, будзеш тужлівы невядома з-за чаго, з разгайданым настроем, засумуеш па нявдзейсненым. 14-18.06. не пагадзіся на штосьці, што быццам бы мае быць для цябе добрым.

**(23.11. — 22.12.)** 14-18.06. рашэнні акажуцца нялёгкімі, але не будзеш іх шкадаваць. Заашчадзіш крыху грошай, а яны не трапяць у неадпаведныя рукі. У тваім жыцці паявяцца аднадумцы, з якімі адразу наладзіш выдатны кантакт. Але не старайся хутка братацца. З 17.06. шыкуецца табе павышэнне або вялікая прэмія, але не праводзь у фірме часу пасля работы і ў выходныя. 15-21.06. будзеш мець магчымасць падзарабіць, але нічога не рабі нелегальна. 14-18.06. можа хтосьці папрасіць у цябе вялікую пазыку, але падумай, ці будзе шанц яе сабе вярнуць.

**(23.12. — 20.01.)** З 17.06. большасць тваіх праблем вырашыцца сама па сабе і без твайго ўдзелу. 14-16.06. будзеш няўпэўнены і перапалоханы. Заахвоцься да вучобы. Заплануй час для пары, найлепш 17-23.06. Калі ты нарадзіўся ў III дэкадзе, зайграе для цябе марш Мендэльсона. Новае пачуццё можа развінуцца маланкава. Пачнеш працаваць за двух, дык і зможаш здабыць шмат.

**(21.01. — 19.02.)** 19-23.06. не натужвайся, адпачывай. 14-16.06. пільнуй сваю хату, дагаварыся з суседам, каб наглядаў за ёю, калі цябе не будзе дома. Хоць цяжка цябе вырваць з хатняга гняздзечка. Можаш ангажавацца ў рамонт (пойдзе спраўна). Ад кахання не ўцячэш. 15-19.06. хтосьці знервуе цябе безадказнасцю, будзе ўцякаць ад абавязкаў і абяцанняў. Таксама з грашыма хістка.

**(20.02. — 21.03.)** 14-16.06. лічыся з кожным працаўнікам, асабліва, калі ён быццам бы слабейшы. 15-21.06. зможаш вельмі многа. З 17.06. (да 24.06.) смела лаві кожную нагоду. Але з 18.06 не падпісвай дамоў і не рабі больших пакупак. Не плануй большых змен у кар’еры. Пры хваробе 13-18.06. паявіцца нечаканы ратунак, будзеш ведаць, што рабіць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | 1 | 2 | | | | |
| 3 | 4 | 5 | | | | 6 | 7 | | | 8 | | | | 9 | | | 10 | |
| | | | | 11 | | | | 12 | | | | | | 13 | | | | |
| | | | | 14 | | | | | | | 15 | | | | | | 16 | |
| 17 | | | | | | | | 18 | | | | | | | | | | 19 |

**1.** губернскі горад на Волзе, **2.** кіславаты напітак, **3.** участак зямлі паміж гаспадарчымі будынкамі, **4.** 2,54 сантыметра, **5.** дзяржава з Токіо, **6.** непрыемны пах, **7.** густая страва са звараных круп, **8.** Дзесяць запаведзяў, **9.** службовы разрад, **10.** дзяржава з Капенгагенам, **11.** адзінка спадчыннасці жывога арганізма, **12.** прынцыповая збожжавая культура паўднёвага ўсходу Азіі, **13.** маці Жыгімонта Аўгуста з роду Сфорцаў, **14.** тлусты верхні слой сквашанага малака, **15.** перпендыкулярная даўжыні, **16.** працоўнае прадпрыемства саўгасніцы, **17.** населены пункт з бургамістрам, **18.** тонкі слой ледзяных крышталікаў на ахаладжанай паверхні, **19.** лакаматыў з паравай цягай.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Кабарэ, папараць, лоўля, плач, жук, ом, печ, пядзя, машына, душа, кіно, Быкаў, важаты, Данія, кроў.

Рашэнне: **У крэдытораў лепшая памяць чым у даўжнікоў**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Па правабярэжжы Буга

У мінулым годзе была здадзена ў карыстанне экспрэсоўка S8 паміж Беластокам і Варшавай. Такая дарога, па сутнасці, даволі шчыльна аддзеленая ад наваколля. Тут мае адбывацца толькі бесперашкодны самаходны рух. Дарожная паласа адгароджаная ад вонкавых лясоў і палёў, а большая звярына, якая стварала б небяспеку разагнаным аўтамабілям, можа перасякаць тую дарогу толькі па бескалізійных шырокіх віядуках над ёю або пад таксама шырокімі пралётамі знізу. І рух па той экспрэсоўцы адбываецца ў своеасаблівым жолабе, з якога гукаізаляцыйныя экраны засланяюць віды на найбольш цікавае, ці то прыроднае, ці то антрапагеннае, наваколле. Шафёр мае мець дачыненне толькі з дарогай...

Гэта паміж ваяводскай і краёвай сталіцамі. А з іншых рэгіянальных цэнтраў у Варшаву — то як? Напрыклад, з Бельска... Спярша трэба даехаць да згаданай экспрэсоўкі, напрыклад, у Замбраў. А пасля — гуляй душа!

А калі каму мала ўзірацца ў асфальт, толькі мае жаданне пабачыць больш — ці то прыроднага багацця, ці то твораў рук чалавечых? Тады са згаданага Бельска можа не спяшацца ў Замбраў, толькі рэфлексіўна праехацца па такой больш традыцыйнай дарозе, па якой да экспрэсоўкі найдалей: цераз Браньск, Цехановец, Малкіню, Брок...

Першыя два гарады знаходзіліся ў межах гістарычнага Падляшша. А з поўначы Падляшша межавала з Нурскай зямлёй. Колішнія адміністрацыйныя землі часта былі моцна несіметрычнымі, напрыклад Бельск знаходзіўся на паўднёвым акрайку Бельскай зямлі, якая на поўначы ахоплівала Райград і Аўгустаў. Гэтак жа было і з Нурскай зямлёй, якой адміністрацыйны цэнтр быў у Нуры, на самым усходнім акрайку, зараз пры граніцы з Драгічынскай зямлёй Падляшша, а заходні край сягаў аж за Вышкаў — амаль па сённяшнюю Варшаву.

„Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага" піша ў канцы XIX стагоддзя так: „Нур — гарадскі пасёлак над Бугам, Астроўскі павет, гміна і парафія Нур. Распалажаны на правым беразе ракі, які высіцца сорак стоп [каронная стапа была крыху большая за 35 сантыметраў] над узроўнем вады; адлеглы 14 вёрст ад Цеханоўца, 15 вёрст ад Чыжава — станцыі варшаўска-пецярбургскай чыгункі, 30 вёрст ад Астраві, 78 вёрст ад Седльцаў, 130 вёрст ад Варшавы. Рака Буг аддзяляе пасёлак ад Сядлецкай губерні. Нур мае зараз драўляны парафіяльны касцёл, пачатковую школу, ям, 100 дамоў і каля 1200 жыхароў. У 1827 годзе было 75 дамоў і 514 жыхароў, у 1860 годзе 80 дамоў і 813 жыхароў, у тым 299 жыдоў. Даўнейшае значэнне гэтага пасёлка грунтавалася на тым, што быў ён галоўным цэнтрам гандлю збожжам, да таго ж сталіцай Нурскай зямлі з трох паветаў: Нурскага, Каменчыкаўскага і Астроўскага. У Нуры адбываліся суды і сеймікі, на якіх выбіралі двух паслоў. Завязкай пасёлка быў, верагодна, замак, які ахоўваў пераправу цераз раку і засцерагаў ад нападзенняў яцвягаў. З пашырэннем земляробства і развою гандлю збожжам Нур становіцца гандлёвым цэнтрам. (...) Гвагнін паведамляў, што горад, хаця драўляны, вядзе значны збожжавы гандаль з Гданьскам. Тое самае падае Свянціцкі ў апісанні Мазовіі, сцвярджаючы, што Нур багаццем мяшчан значна пераўзыходзіць шмат гарадоў. Шведскія войны і эканамічны занепад краіны зруйнавалі заможнасць горада, які прыняў вясковы характар і ў 1806 годзе меў толькі 400 жыхароў".

Паводле люстрацыі Мазавецкага ваяводства ад 1564 года, гораду належала 50 валок добрай зямлі. Апрача земляробства мяшчане займаліся сплаўляннем збожжа, гандлем і рамяством. Было тут 9 мясніков, 20 вытворцаў гарэлкі, 9 гандляроў гарэлкай, 10 рыбаловаў і пэўны лік півавараў, 3 далакопы, 2 кавалі, 3 шаўцы, 6 купцоў, 12 пекараў. Пік гаспадарчага росквіту Нура выпадае на палову XVII стагоддзя. Адбываюцца чатыры кірмашы: у другую нядзелю да Вялікадня, на Тройцу, на св. Дамініка, на Адзінаццаць тысяч дзявіц (21 кастрычніка) ды штотыднёвыя рынкі па аўторках і пятніцах...



Касцёл у Нуры



Касцёл у Зуэзлі

А што ж гэта за свята аж Адзінаццаці тысяч дзявіц? Паводле адной з легенд брытанская прынцэса Уршуля падалася ў паломніцтва ў Рым. Суправаджалі яе дзесяць служанак, а з кожнай з іх світа з тысячы дзявіц. Былі яны ўсе забіты ў Кёльне на Рэйне гунамі, калі Уршуля адкінула залёты іхняга важакі Атылы...

Не толькі шведскія войны неслі знішчэнне Нуру. Таксама Першая і Другая сусветныя войны. 10 жніўня адступаючыя немцы ўзарвалі тамашні касцёл, змураваны ў 1870 годзе. Новы касцёл стаўлялі даволі доўга — з 1948 па 1966 год, а касцельную вежу ўзвялі толькі ў 1975 годзе.

Чарговая мясцовасць Нурскай зямлі, Зуэзля, не мела так багатай гісторыі, але ў недалёкім мінулым на старонкі гісторыі выйшаў яе ўраджэнец Стэфан Вышынскі, адзін з найбольш вядомых польскіх касцельных іерархаў. Паколькі на гэтых днях, 7 чэрвеня, мела адбыцца яго беатыфікацыя, адтэрмінаваная з-за пошасці каранавіруса, варта тады да гэтай падзеі некалькі слоў прысвяціць ягонай асобе. У Зуэзлі будучы Прымас тысячагоддзя правёў сваё ранняе дзяцінства, тры гады вучыўся ў мясцовай школе. У 1910 годзе, калі яму пайшоў дзясяты год, сям'я перасялілася ў недалёкае Анджэва. У тым жа годзе памірае ягоная маці, выказваючы перад смерцю спадзяванне, што пойдзе ён у святарскі сан; ягоны бацька быў касцельным арганістам. Гэта, пэўна, азадачыла малога Стэфана, бо быў ён дзіцём даволі гарэзлівым. І трэба было задумацца над воляй маці — ці не была гэта воля вышэйшага наканавання...

І ці не з гэтага дзіцячага задумлення, і пазнейшага, не атрымалася адна з ягоных пропаведзяў, сказаных у 1977 годзе; вытрымка з яе: „Чалавек, якога сузіраю, гэта вялікі свет волі, думак, імкненняў, пачуцця годнасці. Гэта жывы чалавек. Агромнае месца ўсіх магчымасцей. Нельга загубіць чалавека ў тлуме. Трэба яго паказваць. Трэба бачыць чалавека цэласна, каб ні думкай, ні сэрцам, ні пагардай не адпіхнуць яго ад сябе. Трэба далікатна хадзіць каля кожнага чалавека, амаль на цыпках, бо гэта пункт напоўнены Творцам усімі вытворнымі ад Яго вартасцямі. Ён верагодна ведае, куды ідзе. Можам яго дарогу сузіраць, або ацэньваць, але глыбінна ўзважваючы правы гэтага чалавека, мусім шанаваць яго дарогу і памкненні. Сацыялогія і педагогіка могуць падказваць напрамак дзеяннаў чалавека, але нельга адмаўляць яму права абіраць сабе жыццёвыя азімуты".

І ці не прадчувала маці будучага прымаса, што ейны сын, „напоўнены Творцам усімі вытворнымі ад Яго вартасцямі", пракладзе сабе дарогу ва ўдзячную гісторыю? Так і сталася — пасля вучобы ў гімназіях Варшавы і Ломжы ды ў духоўным ліцэі ва Влацлаўку Стэфан Вышынскі ў 1924 годзе закончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў тым жа Влацлаўку, у 1929 годзе ў Каталіцім люблінскім універсітэце атрымаў вучоную ступень доктара кананічнага права. У 1946 годзе становіцца люблінскім біскупам, а два гады пазней гнезненска-варшаўскім мітрапалітам, прымасам Польшчы. Складаны быў гэта час — сталінскія ўлады Польшчы павялі змаганне з рэлігіяй і яе структурамі; на галоўны прыцэл трапляе прымас Вышынскі. 25 верасня 1953 года ўлады арыштоўваюць прымаса і інтэрнуюць навонкі Варшавы, у аддаленыя кляштары пад нагляд. Вызваляюць яго з прыходам Уладзіслава Гамулкі да ўлады; прымас Вышынскі вяртаецца ў Варшаву на свой пост у канцы кастрычніка 1956 года...

Яшчэ дзве вытрымкі з пропаведзяў Стэфана Вышынскага. Першая, з 1981 года: „Глебу абрабляецца не толькі фертылізацыяй, але і любоўю — вялікай любоўю да айчыннай зямлі і да ўсяго, што яе фармуе. Таму чалавек ставіцца з вялікай пашанай да сваёй мінуўшчыны, намагаецца яе пазнаць, ацаніць, зразумець, прыняць за сваю спадчыну, якой нельга здрадзіць. Трэба тае спадчыны трымацца сэрцам і кіпцюрамі так, (...) як трымаецца жаўнер у акопе, лекар пры ложку паміраючага, святар пасярод галечы, пасівелы навуковец за сваім заваленым паперамі рабочым сталом, шахцёр на дне шахты, металург, караблебудаўнік, кожны сумленны чалавек, ідучы за чыстым сумленнем і добрай воляй. Такім чынам, найдаражэйшыя, нараджаецца свядомасць грамадскага служэння і фармуецца повязь народнай супольнасці так, што ніхто не адчувае сябе чужым у сваёй айчыне. Усё нас цікавіць, усё нам дарагое і каштоўнае. Як жа важная свядомасць, што мы служым гэтаму народу, які цягам вякоў рыхтаваў нам родную зямлю, на якой выпала нам сёння жыць".

І другая, з пропаведзі ў Кёльне ў 1978 годзе: „Еўропа не можа далей быць палігонам для ваенных практыкаванняў ці самапакут людзей і народаў. Сучасныя народы на іншых кантынентах баяцца еўрапейскіх палітыкаў і дыпламатаў, якія замест слоў міру нясуць ім няспынна подых войнаў, баяцца нашых прамыслоўцаў і камерсантаў, якія замест хлеба надзённага нясуць ім смертаносную ваенную прадукцыю, а нават баяцца нашых турыстаў, якія нясуць ім дэмаралізацыю жыцця".

Зараз у Зуэзлі захаваўся будынак школы, дзе будучы прымас вучыўся з першага па трэці клас — цяпер там прысвечаны яму музей. Дом, у якім жыла ягоная сям'я, быў знішчаны ў 1941 годзе. Насупраць школьнага будынка касцёл Праабражэння Гасподняга, змураваны ў 1908-1913 гадах на месцы ранейшага паводле задумы архітэктара Юзафа Дзяконскага — паводле ягонага праекта таксама фарны касцёл у Беластоку; пра першы касцёл у Зуэзлі згадка з 1406 года. Перад званіцай помнік прымасу Вышынскаму.

Пра Малкіню ў міжваенны час пісаў Мечыслаў Арловіч: „(...) невялікі пасёлак над Бугам, які развіўся ў апошніх гадах дзякуючы важнаму чыгуначнаму вузлу чатырох ліній. Таму Малкіня набрала характар мястэчка, дзе адбываюцца таргі па аўторках і кірмашы ў першы аўторак кожнага месяца".

Больш увагі Мечыслаў Арловіч прысвяціў Броку: „У мінулых вяках Брок быў цэнтрам абшырных маёмасцей плоцкіх біскупаў, якія мелі тут палац, выбудаваны ў пачатках XVII стагоддзя біскупам Фірлеем. У XVII стагоддзі Брок быў мясцовасцю прамысловай — тут выплаўлялі жалеза і варылі піва. Пры Уладзіславе IV у мястэчку было каля пяціста дамоў і 82 бровары; збядненела яно пасля знішчэння шведамі. (...) Брок лічыцца адным з наймілейшых малых мястэчак Беластоцкага ваяводства. Забудаваны пераважна аднапавярховымі чыста дагледжанымі домікамі, а красу вуліцам дадаюць алеі растучых перад дамамі дрэў. Прыемна ўражвае таксама рынак, пасярэдзіне якога ўзвышаецца ў вянку старых дрэў надта прыгожы касцёл святога Андрэя, з ліку найпрыгажэйшых у ваяводстве". У міжваенны перыяд, калі пісалася гэтая даведка, Брок быў у межах менавіта нашага Беластоцкага ваяводства...

Згаданы касцёл быў збудаваны ў палове XVI стагоддзя па ініцыятыве плоцкіх біскупаў. Таксама па той жа ініцыятыве ў 1617-1624 гадах быў збудаваны крыху далей, пры ўпадзенні рэчкі Брок у Буг, палац плоцкіх біскупаў, які, аднак, не датрываў да нашага часу; асталіся ад яго толькі фрагменты руін.

Міхал Балінскі ў „Старажытнай Польшчы" так характарызаваў Брок: „У пачатках сваіх быў даволі абшырны, аднак часткова ў выніку змены рэчышча Буга, у якое праваліліся некалькі гарадскіх пляцоў, таксама і ў выніку розных краёвых рэвалюцый змізарнеў; сведчаннем даволі высокія брукі выходзячыя далёка за горад". „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага": „У прынцыпе Брок у гандлёвым ракурсе даволі жвавы, а мясцовыя кірмашы, асабліва асенняя, славяцца ў сваім наваколлі. На тых кірмашах купцы з Варшавы, Ломжы, Любліна купляюць шмат сушаных грыбоў і знакамітых сыроў, называных брокаўскімі".

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 24